
Поўная хата → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Тузы з „тройкі” – Адам Заброцкі → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3024) Год LIX | Беласток, 27 красавіка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# І прыйшла беларуская АНТЫГОНА

Упершыню за больш чым трыццацігадовую гісторыю прэстыжных Варшаўскіх тэатральных сустрэч выступіў на іх беластоцкі Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі. А гэта дзякуючы «Антыгоне», прэм'еры якой у пачатку верасня мінулага года на плошчы ў Крынках, а праз тры тыдні насупраць каталіцкай кафедры ў Беластоку ўскалыхнулі жыхароў. У сталіцы спектакль у рэжысуры дырэктаркі тэатра Агнешкі Карыткоўскай-Мазур і з задумы Лявона Тарасэвіча ды ў першай у яго жыцці сцэнаграфіі быў вельмі цёпла прыняты: працяглымі апладысментамі гледачоў, некаторыя з якіх падняліся з месц, і ў большасці цёплымі меркаваннямі рэцэнзентаў.



Варшаўскія тэатральныя сустрэчы гэта агляд, на які ў сталіцу запрашаюцца найбольш цікавыя спектаклі з папярэдняга года з усёй Польшчы. Сёлета паказалі іх чатырнаццаць. Галоўны селекцыянерам сёлетняга — трыццаць чацвёртага выпуску — быў Здзіслаў Петрасік, кінакрытык і тэатральны аглядальнік, публіцыст штотыднёвіка «Палітыка»:

— Гэта вельмі арыгінальны праект. Сам тэкст Даны Лукасінскай, спалучаючы класічны змест «Антыгоны» з пасляваеннай гісторыяй Крынак, дзе Крэонт з'яўляецца народным камісарам, здаваўся рызыкоўным. Але гэта было выдатна напісана. Сама прэзентацыя чаруе аскетызмам і мінімалізмам формы. Прытым знакаміты хор і сцэнаграфія Лявона Тарасэвіча працуюць выдатна ў кампактным, кароткім спектаклі. Выходзіш з яго з чымсьці ў галаве. Я не сумняваўся, што трэба яго прадставіць на варшаўскіх сустрэчах.

## Многія памятаюць і пацвярджаюць

Раніцай у дзень варшаўскага паказу, у аўтобусе па дарозе ў Варшаву адчувалася выразная напружанасць. У прыватнасці паездку адчувала Юстына Гадлеўская-Кручкоўская, якая раптам мусіла замяніць у галоўнай ролі гасцінна выступаючую Марту Ледвань з Тэатра імя Юльюша Астэрвы ў Любліне. Некаторыя акцёры спрабавалі ў дарозе спаць. Некаторыя, як жанчыны з беластоцкага хору з Універсітэта трэцяга ўзросту, не ведалі як увечары ім удасца выступ, таму што мелі спяваць разам з камерным хорам «441 Гц», які ў той жа час падаваўся ў Варшаву з Гданьска. Беластоцкія харысты не выступалі з ім у «Антыгоне» на працягу некалькіх месяцаў. Раптам тры беластоцкія харысткі пачалі спяваць «Батумі» гурту «Філіпінкі».

— Ды гэта, верагодна, не падыходзіць. Пост жа цяпер, — заўважыла адна з іх.



Таго, як будзе ўспрынята «Антыгона», ужо па дарозе ў сталіцу чакала таксама мужчынская падтрымка хору: Пятро Крук і Раман Васілюк. Пятро Крук:

— Іграючы ў гэтым спектаклі, чалавек набыў вопыт, іншы погляд на тое, што адбываецца ў свеце, на гісторыю, на тое, што было ў нас, на нашай зямлі. У мяне ёсць задавальненне, што магу гэта паказаць. У Варшаве гэта можа быць больш шае адкрыванне гісторыі, чым у нас, таму што нашы людзі да гэтага часу памятаюць.

Раман Васілюк:

— Спектакль вельмі кранальны, для некаторых на плюс, для іншых ён спрэчны. Розныя палітычныя групоўкі параднейшаму маюць розныя погляды на тое, што адбылося зараз пасля вайны. Меркаванні, як правіла, станоўчыя.

Пятро Крук:

— Тыя, што паглядзелі, кажуць, што спектакль распавядае як гэта было. Ён не крывадушны. Многія памятаюць і пацвярджаюць. Гэтая п'еса аснаваная на рэальнасці і павучальная.

Раман Васілюк:

— Гэта паказанне моладзі выніку ўсіх «-ізмаў», асабліва нацыяналізму.

Алесь Малчанаў, кожны дзень акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску, іграе ў «Антыгоне» Тырэсія (святара). Апошні свой адпачынак правёў у Крыме. Зараз аб беластоцкім спектаклі не ўмее думаць інакш, чым з цяперашняй украінскай перспектывы. Гледзячы на падляшска-мазавецкія краявіды за акном аўтобуса, з горыччу даходзіў да высновы:

— Гэта пра тое, што ўлада займаецца сама сабою, а чалавек не мае для яе ніякага значэння. Гэта таксама відаць па тым, што адбываецца цяпер ва Украіне з Крымам. Палітыкі робяць сваё, а людзі застаюцца самі, аказваецца, яны нікому непатрэбныя.

Што «Антыгона» да гэтага часу змяніла ў яго жыцці?

— Ого! Шмат што памяняла. Перш за ўсё, маю тут шмат сяброў. Што важна для мяне як акцёра? Я працую з радасцю. Хацелася б, каб «Антыгона» часцей была паказана не ў будынку тэатра, а на вуліцы. Мабыць, летам зноў удасца зайграць у Крынках. Марай было б іграць часцей, і каб больш гледачоў прыходзіла. Гэты спектакль вельмі важны для людзей з мяжы, але ніхто не займаецца тым, каб іх вазіць у тэатр у Беласток. Для мяне гэта таксама важна, таму што мая бабуля родам з гэтага памежжа, мой дзядка нарадзіўся на мяжы Літвы і Беларусі. А там было тое ж самае, аб чым расказваем у «Антыгоне». У Беларусі аб перамяшчэнні пасляваенных межаў паміж Польшчай і Беларуссю ведаюць толькі тыя, хто хочуць. Гэтага няма ў школьных праграмах.

## Накладванне новых апазіцый

Пасля поўдня ў легендарным Драматычным тэатры ў будынку Палаца культуры і навукі, калісь узначальваным вялікімі майстрамі сцэны: Густавам Галёўбкам, Збігневам Запасевічам або Мацеем Прусам, а цяпер звязаным гадамі з Беластоцкім лялечным тэатрам і супрасльскім «Вершалінам» Тадэвушам Слабадзянкам, працягваліся рэпетыцыі. Важна было, каб у новай прасторы добра функцыянавала святло, важны элемент сцэнічнага дызайну мастака з Валіл. Дырэктар Карыткоўская-Мазур была занепакоена прысутнасцю аўдыторыі. У дзень паказу ў пятніцу, 11 красавіка, у той жа час у Варшаве праводзіўся шэраг іншых канкурэнтных мерапрыемстваў, а асабліва канцэрт «Салідарныя з Беларуссю», аб якім вядома было, што збярэ варшаўскіх беларусаў, а на тэлеканале Культура ўручалі «Гарантыі Культуры», прэмію гэтай тэлестанцыі для мастацкага асяроддзя з удзелам культурнай эліты сталіцы. Увечары, калі прагучалі першыя ноты Міхала Яцашка, а на сцэне з'явіліся першыя героі «Антыгоны», у запоўненай да краёў глядзельнай зале запанавала абсалютная цішыня, якая працягвалася да канца пастаноўкі. У гэтай цішыні, амаль у фінале спектакля, прахаджваўся адзін з савецкіх герояў і раздаваў апытанні пад дыктоўку голасу апавядальніка: «Прозвішча, імя, нацыянальнасць...». Паўтаранае і зацяжное зараз пасля «ш-ч» гучала як гук гільзацыны.

Гледачы не засталіся абыякавымі. Некаторыя сумняваліся: — Гэта завельмі смелае спалучэнне. Іншыя згадвалі: — Ты ведаеш, гэта так жа, як гэта было ў нас, з слезамі. Яшчэ іншыя са здзіўленнем пыталіся адзін аднаго: — Гэта так было там?

Пасля спектакля стваральнікі сустрэліся з гледачамі, якіх вялікая група засталася ў прытэатральнай культавай ужо ў сталіцы «Культурнай кавярні». Вяла сустрэчу Каліна Залеўская, намеснік галоўнага рэдактара штомесячніка «Тэатр». Дырэктар Карыткоўская-Мазур адказвала на яе пытанні:

— Ідэя гэтага спектакля ўзнікла ў самы лепшы магчымы спосаб — за сталом, такім падляшскім сталом. Мы сустрэліся за ім з Лявонам Тарасэвічам, спадчыннікам ідэі памерлага Сакрата Яновіча, і прэзідэнтам Фонду «Віла Сакратас» Паўлам

працяг ☞ 5





# Пра кнігі і не толькі

Адшукаць у Беларусі паштоўку на беларускай мове не самая простая справа. Пра гэта ўжо не раз пісалася. Прынамсі, мінулым годам я з прыкрасцю ўжо абмалёўваў свае падарожжа ў беларускія кнігарні ў пошуках прывабнай паштоўкі для палітвязняў на той мове, якой яны не зракліся нават там. І хіба не варта было б зноў падымаць такую балючую тэму, каб цяпер не адбылося аніякіх змен. Ды вось змены адбыліся. Але распавяду ўсё па парадку.

На Вялікдзень у беларусаў здаўна прынята віншаваць блізкіх і знаёмых. І тут фантазія ў выбары сувеніраў можа расцягвацца да бясконцасці. Галоўнае памятаць пра традыцыйны мінімум. Нельга забыцца і пра тых, хто за кратамі. Гэта і хрысціянская традыцыя, ды і проста людская. А вось ім там, у астрозе, нават той звычайны мінімум у выглядзе чырвонага яйка не перадасі. Не прадугледжаны для гэтай катэгорыі людзей святочныя перадачы па-за вызначанай квотай. Усё што можна ім пасласць, дык гэта паштоўку. Таму зразумела, што хочацца не абы-якую. Ну, каб хоць на нашай мове была.

— Па-беларуску з Вялікаднем у нашай краме няма, — адказвае мне руплівая прадавачка, інтэнсіўна стараючыся прыпомніць, ці бачыла яна хоць дзе-небудзь такі цуд. — Ёсць толькі з надпісам „Віншую". А астатнія ўсе па-руску.

Па-руску паштоўкамі завалена ўся крама. Якія хочаш — і з Пасхай, і з кастрычніцкай рэвалюцыяй, якая тую Пасху паставіла па-за законам. Я не хацеў іх нават разглядаць, каб часу не губляць, і ўжо збіраўся рухацца ў пошуках патрэбнага ў іншае месца, як вочы спыніліся на шэрагу новых паштовак. Абсалютна новых, аналагаў якіх я яшчэ ў мінулым годзе не бачыў. Галоўным іх фонам быў расійскі сцяг.

Тых, хто наіўна мяркуе, што зялёныя чалавечкі на Украіне з'явіліся выпадкова, і што гэта не з'яўляецца даўно спланаванай агрэсіяй, хай проста завітаюць у беларускую кнігарню. І хай пераканаюцца, як доўга ўжо і мэтна ідзе гэтая вайна, якую інакш чым генацыдам не назавеш. А яе вынік даўно вызначаны і спланаваны — знішчэнне і ўкраінскай, і беларускай ідэнтычнасці.

Паліцы беларускіх кнігарняў ламаюцца ад такіх кніжак як „Берыя", „Сталін", „Сталінскі маршал Г. Жукаў"... Вялікімі бліскучымі літарамі наведвальнікам задаюцца пытанні: „За што Сталін вёў народы?" І тут жа: „Сталінская дэпартацыя — гэта самавольства, ці справядлівая адплата?". Вось так! Аказваецца, дэпартацыя цэлых народаў можа быць справядлівай адплатай. Нездарма крымскія татары так напалохаліся „вызваліцеляў". Як бачым па новай літаратуры, ідэолагі даўно падрыхтоўваюць людзей на былой савецкай прасторы да канкрэтных меркаванняў пра справядлівасць. І як ісціна ў апошняй інстанцыі гучаць назвы іншых „бестселераў" — „Сталін — як гэта было. Феномен XX стагоддзя", „Сталінскія рэпрэсіі ўратавалі СССР?" Ну і зразумела, негатыўныя думкі наконт сталінскіх рэпрэсій развейваюцца як ілжывыя, калі побач з вышэйзгаданай літаратурай стаяць „Праўда пра вайну, або чаму лгуць гісторыкі", ці „1937 год без хлусні".

А чаго толькі вартая такая назва кнігі як „Лаўрэнцій Берыя. Мой палітычны запавет". Калі Берыя зрабіў той запавет, і ці рабіў увогуле, гэта ўжо няважна. Сама назва — савецкі лозунг, які не прадугледжвае сумненняў у яго праўдзівасці. Ну і зразумела, не абавязвае чытаць штосьці далей. Хопіць і гэтага.

Ёсць, дарэчы, у гэтай жахлівай серыі кніжкі і пра Беларусь. Сярод іх такія як „Беларускія калабарацыяністы. Супрацоўніцтва з акупантамі на тэрыторыі Беларусі. 1941-1945". Ну і зразумела, што падобная літаратура выдадзена на „общепонятном языке". І па кошце даступная. І калі нехта сумняваецца, што гэта адзін з элементаў рэанімацыі савецкай імперыі, якая ініцыюецца Крамлём па ўсіх кірунках, то тады можна засумнявацца і ў існаванні гравітацыі.

Паштоўкі для вязняў я ўсё ж знайшоў. Яшчэ засталося крыху па-беларуску. Праўда, прадавачка доўга не магла зразумець, што такое Вялікдзень. Прыйшлося паказаць пальцам, што я ад яе хачу. Адчуў сябе іншаземцам. А кім адчувала сябе яна, як я растлумачыў, што такое Вялікдзень, я не ведаю.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Прыгожая катастрофа



У папярэднім фельетоне я пісаў пра складванне касцяшак даміно, параўноўваючы гэтую нявінную на самой справе забаўку да імперскай галаваломкі, якую Пуцін сакрэтна будаваў ад многіх гадоў. Не акцэнтаваў я, аднак, дастаткова таго, што кубікавая пабудова, узведзеная з вялікай аддачай часу і чалавечых сіл, аснавана на плане руін. Прасцей кажучы — руін, таму што замест вянчаючага будоўлю букета кветак наступае разбуральная пстрычка пальцам і наступаючая затым катастрофа — відны пакот майстэрскай галаваломкі з касцяшак. Такая логіка гэтай гульні і, верагодна, адзіная яе мэта. Не іншую логіку паказвае імперская канструкцыя Пуціна. Аднак розніца паміж адной і другой асноўная. Пуціну наўме не гульня. Нельга папракнуць яго ў інфантыльнасці або наіўнасці. Ён ведае, да чаго ідзе. Праблема ў тым, што толькі ён і, мабыць, нават некаторыя з яго прыслужных. І больш ніхто. Але гэта якраз галоўная турбота еўрапейскіх і амерыканскіх палітыкаў. Філасофія глабальнага ладу аснавана на празрыстасці.Там няма месца для патаемных палітычных ракіровак. Усе краіны павязаны паміж сабою капілярнымі сувязямі, якімі не плывуць выключна сыравіна і тавары, ані толькі міжнародны капітал, але больш за ўсё ідэі, тэхналогіі і мірны аптымальны баланс, быўшы паслядоўным бачаннем мультыкультурнай цывілізацыі чалавека. Іншае пытанне, ці з'яўляецца гэта самай лепшай ідэяй, на якую змагло сабрацца чалавецтва. На жаль, асноўным тэзісам гэтай філасофіі з'яўляецца перакананне, што глабальны баланс забяспечвае толькі свабодны рух капіталу, безупынная эканамічная экспансія і ўзаемны эканамічны ціск дзяржаў. Такім чынам, гэтае шалёнае развіццё свету, нягледзячы на велізарныя сацыяльныя, маральныя, культурныя і экалагічныя кошты, стамляе нават самых моцных. Расія была першая задыхалася. Ці не ад таго ўзяліся яе дзікія танцы пасярод Еўропы, ва Украіне? Толькі што ў глабалізаваным і ў меру ўпарадкаваным свеце непрадказальнасць гэтай атамнай дзяржавы выклікае нарастаючую хвалю неспакою, якая ў любы момант можа ператварыцца ў катастрафічнае цунамі. А яго ўдару не вытрымаюць сусветныя рынкі. Гэта самы кароткі шлях да глабальнай рэцэсіі. Такі стан выраўноўвання ў доўгатэрміновай перспектыве рэзкіх адрозненняў паміж багатымі і самымі беднымі, верагодна найбольш выгадны для Расіі, аднак абазначае сур'ёзныя праблемы для Кітая, які імкнецца да ролі эканамічнай звышдзяржавы, а таксама для Індыі і Бразіліі, якія хутка мадэрнізуюцца. Я нагадаю, што насельніцтва толькі гэтых трох краін складае за тры пятых ад агульнай колькасці насельніцтва Зямлі, з чаго значная яго частка выйшла літаральна момант таму з галоднай беднасці.

Ад чаго Пуцін быў так рашуча адчайны, што асмеліўся пакваліцца не столькі на Крым, як і на ўвесь свет? На мой погляд, Крым ці толькі нават спроба ўчыніць Украіну васальнай дзяржавай з'яўляюцца толькі ўскоснымі касцяшкамі яго стратэгічнага плана. Калі змяшчаюцца ў ім суседнія дзяржавы, яны таксама не з'яўляюцца яго галоўнай мэтай. Справа нават не ў тым, што марыцца Пуціну аднаўленне савецкай імперыі. Мабыць так, і, мабыць, не... Хто ведае, ці яго авантурныя паводзіны не бяруцца з пераканання, што магчымасці развіцця Расіі былі цалкам вычарпаныя. Інакш кажучы, экстэнсіўная, у асноўным рэштквая эканоміка гэтай краіны не ў стане канкураваць далей з магутнымі, інавацыйнымі эканомікамі Захаду. Магчыма, жадаючы захаваць Расіі статус звышдзяржавы, Пуцін спрабуе сапхнуць свет у глыбокую дэфензіву, давесці яго да рэцэсійнага калапсу. Для выраўноўвання сіл. І, магчыма, задумаўся зарабіць значна больш — урэшце кансалідаваць рускую, упаўшую духам, у значнай ступені распыленую і дэмаралізаваную нацыю вакол ідэі звышдзяржавы. Магчыма, што гэта з'яўляецца галоўнай мэтай яго палітычнай галаваломкі. Ці, мабыць, абапіраючы на ілжывай прапагандзе салідарны энтузіязм суайчыннікаў, ужо даўно выявіў, што яны танцуюць не так, як ён зайграў, але насуперак яго намерам, як грэк Зорба, які кончыў свой шалёны танец над руінамі нятрапнага мерапрыемства словамі: «Якая ж гэта была прыгожая катастрофа». Ну, і як у такой сітуацыі віншаваць нашых чытачоў са святамі?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Шыла ў мяшку не ўтоіш

Кіруючая Беластокам і Падляшскім ваяводствам Грамадзянская платформа нядаўна арганізавала дыскусію пра будучыню Беластока ў перспектыве 2020 года. Гэта было ў дзень, калі беластоцкія радныя прынялі рэзалюцыю, рaптам вынесеную прэзідэнтам Тадэвушам Трускаляскім, аб грамадзянскім бюджэце (удзельным) на 2015 г. Прэзідэнт не прыняў пад увагу (і, канчаткова, таксама радныя, якія прынялі рэзалюцыю ў ягонай версіі) больш дзесятка няўрадавых арганізацый (НДА) і часткі радных, каб была яна распрацаваная ў кансультацыі з жыхарамі. Раней у лісце прэзідэнту прадстаўнікі НДА напісалі: „Вельмі важнай з'яўляецца належная каардынацыя ўсяго працэсу падрыхтоўкі грамадзянскага бюджэту, у такі спосаб, які будзе гарантаваць жыхарам доступ да ўсёй неабходнай інфармацыі і кансультацый. Дапамога ў ацэнцы коштаў і стварэнні графіка задачы, падачы заявак пры падтрымцы экспертаў; стварэнне заяўнікам доступу да разліковых каштарысаў асобных праектаў ці распрацоўка агульнадаступнай карты Беластока для палягчэння першапачатковай ідэнтыфікацыі ўчасткаў, якія знаходзяцца ва ўласнасці горада. Гэта дазваляе пазбегнуць сітуацыі, у якой значная частка заяў прападае ў стадыі фармальнай ацэнкі (...). Спадар прэзідэнт палічыў мэтазгодным правесці кансультацыі з раднымі, але мы пераканаі, што ў дыскусіі аб форме грамадзянскага бюджэту таксама павінны ўдзельнічаць іншыя асяроддзі — беластоцкія НДА і жыхары, якія ўдзельнічаюць у справе, якім блізкія справы Беластока. Уключэнне ў гэтым працэсе галасоў жыхароў прынесла б на наш погляд вялікія карысці і ўмацавала б інстытут грамадзянскага бюджэту ў нашым горадзе".

Тым часам прэзідэнт Трускаляскі аб тым, на якой падставе можна будзе выкарыстоўваць грамадзянскі бюджэт, вырашыў у адзіночку. Павялічыў такім чынам пульку сродкаў да 12 млн. злотых (з 10 млн. зл. у гэтым годзе) і падзяліў праекты на агульнагарадскія інвестыцыі (9 млн. зл.) і мікраённыя (3 млн. зл.). Кошт аднаго вялікага праекта не можа перавышаць 3 млн. зл., а малога — 300 тыс. зл. Таксама змяніў прынцыпы заяўляння задум для рэалізацыі. Свае праекты могуць заяўляць асобы, якія жывуць у Беластоку і маюць актыўнае выбарчае права голасу. Кожны жыхар мае права прапаноўваць толькі адзін інвестыцыйны праект, пры падтрымцы 20 чалавек. Таксама ўведзена магчымасць правядзення кансультацый праекта з членамі спецыяльнай групы. Асобныя прапановы будуць пастаўлены на галасаванне, у якім могуць прыняць жыхары Беластока, якія маюць права голасу ды прапісаныя ў нашым горадзе і якім больш за 16 гадоў. Кожны жыхар зможа выбраць да шасці інвестыцыйных праектаў (тры вялікія і тры малыя). У кожным мікраёне можа быць выбраны для рэалізацыі адзін інвестыцыйны праект, які атрымае найбольшую колькасць галасоў сярод праектаў датычных гэтага мікраёна.

Мне цяжка зразумець, чаму прэзідэнт пазбавіў жыхароў магчымасці ўдзелу ў працах над „стымулам", заахвочваючым іх па сутнасці праявіць грамадзянскую, грамадскую пазіцыю, навязаў ім сваю версію грамадзянскага бюджэту. Можа сапраўды дэмакратыя не можа быць такая „разгуляная", як калісьці назваў яе старшыня беластоцкай Гарадской рады Уладзімеж Кусак (ГП). Мабыць, адказ на маё пытанне заключаецца ў заяве намесніка старшыні падляшскае ГП Роберта Тышкевіча ў адной з сацыяльных сетак пасля сустрэчы на тэму будучыні Беластока ў перспектыве 2020 года, неўзабаве пасля прыняцця рэзалюцыі: „Галоўная выснова (пасля сустрэчы — М. Х.) відавочная: пара паклапаціцца аб беластачанах. Клопат пра людзей, пра магчымасці развіцця, творчасць, працу; час, каб пабудаваць прастору для дабраякаснага жыцця. Вялікі, ключавы выклік". Пасля прачытання ў той дзень гэтага кур'ёзнага выказвання я не надкладна размясціў у сацыяльнай сетцы свой каментар: «Заява „прыйшоў час для клопату пра беластачан" з'яўляецца, так сказаць, крыху дзіўнай пасля многіх гадоў праўлення ГП Беластокам і рэгіёнам». Старшыня Тышкевіч адказаў: „Зразумела, што мы заўсёды клапаціліся пра беластачан, кіруючы горадам. Але я часта чую, што апошнія восем гадоў — гэта ў асноўным інвестыцыі ў „бетон", значыць, у інфраструктуру. Будаванне дарог, інвестыцыйных зон, навукова-тэхналагічнага парка, стадыёна, эканамічнай зоны, спортпляцовак-„арлікаў" — гэта будаванне падмуркаў. Неабходна, таму што без іх нельга паставіць трывалую канструкцыю, здольную пратрымаць гады. Але цяпер — час на дом".

Пад каментарам Роберта Тышкевіча ў сацыяльнай сетцы паявілася таксама меркаванне Кацярыны Штоп-Руткоўскай, кіраўніка Фонду „SocLab. Лабараторыя па даследаваннях і сацыяльных дзеяннях", адной з тых, хто падпісаў ліст прэзідэнту да прыняцця рашэння аб грамадзянскім бюджэце: „Мая мара, каб прыметнік грамадзянская ў назве Вашай партыі быў больш ярка выяўлены ў жыцці гэтага горада і рашэннях, прынятых мясцовымі ўладамі. Апошнія „беластоцкія прыгоды" з грамадзянскім бюджэтам паказалі, што ГП у мясцовых структурах не думае аб глыбокім удзеле грамадзян/грамадзянак".

Я апусціў рукі і ўжо ў сацыяльнай сетцы перастаў распытваць старшыню Тышкевіча пра тое, што з удзелам жыхароў у будаўніцтве дома (ізняга-нашага, як здаецца). Ці мае быць так, як з іх удзелам у працах над грамадзянскім бюджэтам. Грамадзянскім!?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Поўная хата

**На падворку аднаўленай хаты, што леваруч адрамантаванай пазалетась святліцы — горбы цацак. Хату я ледзь пазнала. Ведаю, што ў ёй жывуць Іван Тарасэвіч (1928 года нараджэння), шмагадовы солтыс вёскі Случанкі, са сваёй жонкай Надзеяй (1931). Пасля шлюбу яны ўжо шэсцьдзесят гадоў! Пад святліцай ужо клубіцца тлум гасцей, што прыехалі і прыйшлі на чарговую гмінную імпрэзу. А ў Тарасэвічавай хаце — таксама поўна. З другога пакоя раздаецца плач малечы. Надзя Тарасэвіч супакойвае шостую праўнучку, Настусю. А ў хаце яшчэ і дачка Ірэна, і яе дочкі з дзецьмі, і, вядома, гаспадар. Іван таксама збіраецца на свята. А тут заглядае яшчэ і зяць дачкі Ірэны, які неўзабаве паедзе ў Беласток, на працу. У каго выхадныя, свята, а каму — на работу.**



Іван Тарасэвіч з праўнукамі

Вёска поўніцца час ад часу, найбольш у святы і пад гмінныя івенты. Аднаўляецца памяць у Гарадоцкай гміне, табліцы ставяць, хто адкуль родам у вялікія людзі пайшоў. А Случанка цяпер найбольш вядомая Ігнасем.

— У таго Ігнася Карповіча яшчэ двух братоў было. Ягоны бацька Мікалай — будаўнік. Цяпер у Заблудаве жыве, — кажа Іван Тарасэвіч, адзін з тутэйшых старажылаў.

— А яго дзядзьку, Віціка, я ведаю, бо з сынам маёй сястры быў у адным класе, — дадае дачка. — Ігнася маці — Галіна. А бацькаў брат у нас у Случанцы жыве, каля рэчачкі, з жонкай Крысяй. Ну, дык з нашай Случанкі, лічыцца, Ігнась самы слынны хлопец. Адзін з самых лепшых сучасных пісьменнікаў у Польшчы.

— Кажуць, раманы ў яго? — пытаецца ўнучка. — Пры выхадзе яго першай кнігі напісалі, што ён народжаны ў Случанцы, хоць, як і мы ўсе, у Беластоку ў бальніцы. Калісь у нас казалі — „Случанка-сталіца”!.. А ў нашага дзедкі таксама свята — 60 гадоў мелі па вяселлі! 24 лістапада — у яго самога — 85 гадоў. Добрых крэмаў дзядуля ўжывае! Мамка ягоная Вера жыла 54 гады, татко Іван — 62, а прабабка Вера — 104, хоць трыццаць гадоў не хадзіла, — унучка мае добрую памяць да сямейных дат...

## Колькі нас усіх!

— Цярплівасць мы мелі адно да аднаго! — смяецца Іван. — Тыля часу!

— Пыталіся мы ў дзедка, які рэцэпт мае на такое даўгалецце ў пары. Бо ў нашай бабулі спецыфічны характар! Добры, спакойны.

Іван Тарасэвіч быў солтысам у Случанцы 36 гадоў. У сваёй кадэнцыі, пакуль дамовіўся, дык адзін тэрмін прапусціў. Радным быў шмат гадоў, старшынёй салэцкай рады.

— У мяне дзве дачкі і сын, а ўнукаў маем ужо шасцёра. Дык Іван і Надзя маюць тры праўнучкі і трох праўнукаў. Праўнуку найстарэйшаму 14 гадоў, а наймейншай, Анастасіі — чацвёрты месяц. Давід-Крыстыян, Якуб-Хрыстафор, Натаніель, Каміля-Габрыеля, Ніка-Амелія, ну і Анастасія. На 15 чалавек радзіна, — пералічвае Іван.

— Бабця, дай булачку, — заглядае ў кош са свежаспечанымі румянымі булкамі Каміля. — Гарачая, падзьмухай крышачку.

— З бацькамі хто тут жыве? Ніхто, я тут прапісана, але ў Беластоку. Унукі ва ўік-энды прыязджаюць, я часцей, кожныя дватры дні сюды еду.

— Як яшчэ і Гарадок прыедзе, то ў хаце аж цесна! — цешыцца ў разагрэтай печчу і ўсмешкамі кухні Іван. — А яшчэ ж і ў Гарадку маю ўнукаў. Як наедзе ўсіх! І хату элегантную ў Гарадку маюць.

— Аддала яе сыну, — кажа Ірэна. — І сама ўжо ў Беластоку. Мне ўжо 58, а да смерці трэба рабіць (*смех*). Калі б па-старому, ужо пайшла б толькі ўнукаў пільнаваць... Але наш хазяін яшчэ і карову, і шасцёра свіней трымае, плойму курэй.... Мелі дваццаць бройлераў...

— А калі чалавек мае многа работы, не мае калі ўміраць, — дадае Іван. — І блізкія блізка. Двух братоў — за дарогаю. Беглыя мае праўнукі. Гэты меншы, калі я прывёз палікі да памідораў, ўзяўся іх караваць: „Будзе чысты кіёк, будзе чысты і памідор, менш вады да мыцця!” Гаспадарыў я. Малая гаспадарка была ў мяне. Два гектары ворнага, пяць гектараў лонкі. Але я ўвесь час рабіў на дзяржаўных работах. Пенсію маю ЗУСоўскую. Работы хапала — і там работа, і дома работа. Кароў мы многа не трымалі, часамі чатыры-пяць дойных, цялят-маладняку больш. Калісь з усяго быў прыбытак, а цяпер... Цяпер такія малыя гаспадаркі ўсе паліквідавалі. Калі б і хацеў, не дасць рады ўтрымацца. Трэба мець з пятнаццаць кароў, каб свой танк мець на малако. Яшчэ кароўку адну маем, але гэта ўжо апошняя. Не было ўжо дзе малака дзяваць. Збожжа трохі ёсць, дык свіней пару гадуем. То ж сееш не для дзікоў! Сееш, хай расце.

— ...Як мне жылося з Надзяй столькі гадоў? Не было калі задумоўвацца...

## Работа была.

Рабіў, рабіў, рабіў. Як ажаніліся, жыў там за дарогаю, у бацькоўскай хаце. А потым перайшоў сюды, хлеў, стадолу, хату паставіў. Прайшло яшчэ пару гадоў, стаў ставіць хату ў Гарадку. І так усё работа была. Не было калі нудзіцца. І былі грошы! Як у Гарадку ставіў хату, дык адразу там тры лазенькі рабіў. Перспектыўна. Піўніцу ўжытковую, партэр. На паверсе тры пакоі, калідор... На ўсіх паверхах — лазенькі.... Цяпер збярэмся, сядзем, кажуць — бяды няма. Але стань ты цяпер пабудуй хату! З адной лазенькай не дасі рады. А я будаваў! А скуль узяў грошы? Ведаеш, красці не краў. Грошай хапала. Выдумоўвалі, што хацелі, як на калісьні час, што было найноўшае.

— А скуль вы жонку знайшлі?

— З-за рэчкі. З Каралёўшчыны. Напрасткі згэтуль будзе з трыста метраў. Ведаліся мы ўжо раней, бо мая сястра была за яе братам. Як добра быць разам? Ці слухаць адзін аднаго? Часам не чуць чаго-небудзь. Усяляк у жыцці бывала. Шлюб мы мелі ў 1953 г. Важкі год. Але мяне ў войску доўга пратрымалі, 37 месяцаў, бо тады ў Карэі замешкі былі, дык нам год войска прадоўжылі. З войска прыйшоў я ў 1952 годзе. 36 гадоў салтысавання. Калісь у нас былі грамадскія рады, у нас у Валілах-Станцыі была. Ад нас калега быў старшынёй. Ён угаварыў мяне, каб я згадзіўся быць солтысам, бо я не хацеў быць. Адзін клопат. Цяпер, калі солтыс пойдзе на сесію, дык яму і заплацяць. А калісь усё тыя начлежнікі былі, секвестратары, і мусіш іх пераначаваць. Дык дзялоў было! І солтыс быў застрахаваны, але ўжо радзіна — не. Калі ўжо Грамадскай рады не было, была Гмінная рада ў Гарадку. І зноў мяне зрабілі солтысам, але сям’я ўжо была застрахаваная. І я згадзіўся. Дык тое цягнулася, і калі кончылася, дык ужо спакайней. Падаткі, грамадскія пачыны, амаль штонядзелю. Тры разы ў сезон пошукі стонкі-каларадскага жука. А як солтыс не пойдзе на пачын — дык хто пойдзе? Прыклад трэба даць. А як калёніі рабілі (1963), усяго было пры тым! Мелі прэтэнзіі, але не было асаблівых спрэчак пры камасацыі. Пасля святло, ваду зацягвалі... Электраток тут зацягнулі ў 1967 годзе. Зацягалі святло былі на Станцыі-Валілы ў 1951 годзе, прапанавалі і Случанцы, але тады залежала ад гаспадаркі — хто меў больш гектараў, больш плаціў. І пару асоб не згадзіліся. І так доўга пасля чакалі, вымэнчыліся. А водаправод зацягнулі ў 1997 годзе, пры маёй кадэнцыі. Але я меў ваду яшчэ без водаправода, на гідрафор. І лазенька ў нас была. Цягнулі, а ахвотных было толькі пяць чалавек. А калі сталі падключаць, ужо тады ўся вёска схацела. Хадзіў я, спісваў — тады ўжо ўсе згадзіліся. Але трэба было складчыну за лінію плаціць. Толькі дзевяць чалавек дало па тысячы злотых. Пасля адна яшчэ дала пяцьсот злотых, а пасля іх вярнуць хацела... Спачатку было па тры ці чатыры тысячы. Кажу войту: дзесяць тысяч для гміны гэта слабыя грошы, а камусь і тысяча гэта непасільна. Зменшылі. Тады 27 згадзілася. І каб лінія была кожнаму да хаты, на адзін кран. Тады ў нас поўных хатаў было з трыццаць шэсць. Цяпер у нас іх палова пустых, або па адным чалавеку. Нумароў у нас было тады 42. Цяпер у нас солтыс Оля Тарасэвіч.

...Калі ў нас

## святліцу паставілі...

Калі сам той дом — не памятаю. У гэтым месцы жыла сям’я, у 1944 годзе, 24 лістапада паехалі ў Расею згэтуль. Хата засталася. Адзін стары чалавек пачаў жыць у гэтай хаце, Ясько Давыдаў, Сашкаў бацька. Яго сын ажаніўся, у другой хаце стаў жыць. У сына быў, і гэту трымаў. Як Сашко прыйшоў з войска, і Зінка прыйшла, пажаніліся, дык вяселле яшчэ тут было, і ўжо Зінка пайшла ў сваю хату, бацькоўскую. А ў старой хаце танцавалі, забавы рабілі штонядзелю. Па хатах рабілі мы тады забавы, у каго большая. Столік адсунеш, ложак — і ёсць дзе круціцца. Ды мы раз пазычылі ў Яські ключ, аддалі, другі раз, а пасля дайшлі да вываду з солтысам, Варфаламеем, каб у гэтай хаце зрабіць святліцу. Кажа, пагавару ў гміне, няхай застанецца на цэлую вёску. І мы той ключ Яську ўжо не аддалі. Спярша развалілі сцяноўку. Прайшло пару месяцаў, ніхто нічога не сказаў, пасля ўсе печы развалілі. Я тады ўжо з войска прыйшоў, здаецца. Мы перапаставілі хату, зрабілі яе большую, прадоўжылі, накрылі іначай, бо ўжо рамонту патрабавала. Праз нейкі час папраўляла яе, малявала наступнае пакаленне.

— Наша кадэнцыя там гуляла! — дадае дачка Ірэна. — У сямідзесятыя гады штосуботу ў нас забава была.

— Ашалявалі яе, выбілі ўсярэдзіне пільсняй, пачысцілі. Рабілі забавы па білетах. Паўвёскі збіралася, у святліцы не памяшчаліся.

— А як Засцянкі яшчэ прыедуць, як яшчэ і біліся! Нават штыкеціны ішлі ў рух!

— У 2012 годзе яе аднавілі, і гэта цяпер уласнасць гміны. Тыя людзі, што выехалі, у СССР, там пэўна атрымалі нейкую магчымасць жылля. Тады ў нас шмат вёску пакінула, ехалі такі пружныя сем’і, дзе дарослых было многа, пазаставаліся старэйшыя, або з малымі дзецьмі. Было дзіка, калі яны паехалі, пустыя хаты засталіся ад іх. У большасці яны ў Беларусі спыніліся, некаторыя хацелі далей ехаць, але іх не пусцілі. У Навагрудку жывуць, каля Навагрудка. Упярод часта прыязджалі тыя, у каго засталася радзіна, цяпер слабей. Ці хацелі вярнуцца? Тут у Гарадку быў адзін такі, ужо памёр, небарака, Пшэсмыцкі, то быў тутака агентам: агітаваў, намаўляў, запісваў, каб ехаць. Паехаў, пабачыў, але тут было лепей, чым там. А нам тут было добра. Увогуле ў Польшчы за тае „камуны” было не фэ. Заехаў Пшэсмыцкі туды. Быў Канстанцін, зрабіўся Казімеж. Прыехаў назад. Яшчэ адзін таксама прыязджаў, казаў: „А чаго ехалі? За санацыі, яшчэ да 1939 года, перад панам трэба было шапку скідаць. Думалі, што і цяпер гэтак будзе. Але цяпер ужо ніц не зробіш, не вернешся”. І ніхто не вярнуўся, апрача агента...

З суседняй хаты пасля еўрарамонту даляцеў песенны гул — пачалася вечарына. Рушыў дзед Іван з праўнукамі на свята...

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**



На вечарыне ў святліцы

## Ручны гафт і карунка

На адкрыццё выстаўкі ручной вышыўкі, карункі і вязання, якое адбылося 12 красавіка 2014 года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыйшлі і прыехалі жыхары Гайнаўкі, Белавежы, Кляшчэляў, Новага Ляўкова, Нарвы, Орлі, Плянты і Чаромхі.

У адкрыцці выстаўкі прыняў удзел бургаміст Гайнаўкі Юрый Сірак. Ён і ўручаў узнагароды за найлепшы гафт і карункі. На выставе вылучаюцца абрусы з цікавымі кампазіцыямі, карціны з выявамі прыгожых веснавых кветак і звяроў, гафт з біблейскімі матывамі св. Мікалая Цудатворца і Багародзіцы, вышываныя ручнікі і сурвэткі. На многіх пакрывалах можна было заўважыць старадаўнія матывы, прысутныя ў гафтах нашых прабабуль. А якія прыгожыя, вытанчаныя былі карункі!



У падрыхтоўцы конкурсу вышыўкі і выставы найбольш папрацавалі інструктаркі Гайнаўскага дома культуры Зінаіда Якуць і Анна Тарасюк. Да конкурсу прыступіла 31 асоба. Журы да ацэнкі атрымала 150 прац (гафтаваных абрусаў, ручнікоў, пакрывалаў, карцін і набораў сурвэтак). Узнагародзіла яно дзесяць асоб і вылучыла шэсць. Былі рэчавыя ўзнагароды, памятныя дыпломы і каляровыя кніжачкі з фатаграфіямі найлепшых прац і прозвішчамі іх аўтараў.

У катэгорыі гафту першую раўнапраўную ўзнагароду атрымалі вядомыя майстрыхі Галіна Бірыцкая (*на здымку*) з Плянты каля Нараўкі і Крыстына Русачык з Нарвы, другую — Аліна Віткоўская з Гайнаўкі ды трэцюю ўзнагароду — Ірэна Міхаляк з Гайнаўкі. Вылучэнне атрымала Барбара Янюк з Гайнаўкі.

У катэгорыі карункі першую ўзнагароду атрымала Ева Багданюк з Гайнаўкі, другую — Малгажата Краўчык з Плянты, а трэцюю — Вера Чыквін з Кляшчэляў. У гэтай жа самай катэгорыі вылучэнні атрымалі Марыёля Барбара Багроўская з Гайнаўкі і Крыстына Грыгарук з Орлі.

У катэгорыі мешанай тэхнікі (гафт, карунка і сутаж) узнагароды атрымалі Анна Харытанюк (ювелірныя вырабы — сутаж) і Марыя Нічыпарук (яна атрымала ўзнагароду этнографа) — яны з Гайнаўкі.

Сярод інвалідаў (з псіхічнымі або фізічнымі абмежаваннямі) узнагароду атрымала Малгажата Станкевіч-Чыквін, а вылучэнні — Малгажата Мажаеў, Барбара Плуг і Давід Сухоцкі.

У конкурсах на найлепшы гафт і карункі Гайнаўскага павета найчасцей прымаюць удзел народныя ўмельцы, між іншым, Яніна Плева, Валянціна Залінка, Аліна Віткоўская, Крыстына Русачык, Галіна Бірыцкая, Крыстына Грыгарук, Малгажата Краўчык, Ірэна Міхаляк і Вера Чыквін. Яны амаль кожны год прывозяць на конкурс цікавыя мастацкія творы, выкананыя крыжыкавым гафтам ды гладдзю, а таксама адмысловыя карункі.

Выстаўка будзе працаваць да 20 мая гэтага года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая, 42, у гадзінах працы музея. Працы, якія спадабаюцца гледачам, можна будзе купіць.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Інтэлектуальная дуэль і настойка „Літвінка"

З **Алесем Белым**, пасіянатам гісторыі, навуковым даследчыкам і рэканструктарам смакаў гутарыць Ганна Кандрацюк.




**— Прыемна пабачыць беларускіх аўтараў і выдаўцоў на III Міжнародным кніжным кірмашы ў Беластоку. Скажыце, як Вы сюды трапілі?**

— Арганізатары, Фонд „Суседзі", з дапамогай Польскага інстытута ў Мінску запрасілі чатыры беларускія выдавецтвы, у тым ліку „Архэ". Калі пра сябе, я тут як аўтар аднаго з прэзентаваных бестселераў...

**— „Хронікі Белай Русі" з падзагалоўкам „Імагалогія Беларусі XII-XVIII ст". Рассакрэцце нам, як нарадзіўся Ваш бестселер?**

— Кніга пісалася 18 гадоў, яна выйшла ў 2000 годзе і атрымала прэмію беларускага ПЭН-цэнтра імя Францішка Багушэвіча. Зараз мы прэзентуем другое, перапрацаванае і дапоўненае выданне, якое выйшла ў 2013 годзе пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. За гэтыя трынаццаць гадоў кніжка вельмі істотна перапрацаваная... Асноўная частка, якая называецца „Хроніка Белай Русі", прысвечана назве Беларусі ад часоў глыбокай старажытнасці, скажам з XII ст., да канца XIX ст., калі тэрмін ужо ўсталяваўся.

**— Гэта гучыць як жывы даследчыцкі працэс?**

— Другое выданне гэта таксама ў пэўнай ступені вынік інтэлектуальнай дуэлі з прафесарам Алегам Латышонкам. Справа ў тым, што калі з'явілася маё першае выданне кнігі, яно вельмі моцна паўплывала на кніжку Латышонка „Od Rusinów Białych do Białorusinów". Ён вельмі істотна перапрацаваў сваю кнігу пасля з'яўлення маёй. У другім выданні мне таксама вельмі шмат разоў трэба было пагаджацца з Латышонкам, пазычаць яго, таксама палемізаваць...Так што гэта такая працяглая творчая дуэль, вядома, без нейкіх асабістых прэтэнзій, і яна трывае ўжо трынаццаць гадоў. Я ўдзячны сваіму калегу за ўласныя папраўкі і кірункі далейшых пошукаў. „Хроніка Белай Русі" ў інтэлектуальным перакaзе — наватарская. У прынцыпе мала хто ў нас уяўляе на дакументальным узроўні стан ведаў пра паходжанне назвы „Беларусь".

**— Ці дзякуючы Вашай кніжцы беларусы думаюць інакш пра саміх сябе?**

— Я думаю што мала хто яшчэ па-сапраўднаму яе прачытаў. Кніга мала што тоўстая, то ў ёй такія навуковыя высновы і іх даволі цяжка засвоіць. Таксама ў школьных падручніках доўга яшчэ будуць паўтараць у прынцыпе народны погляд на паходжанне назвы Беларусь. З новымі ведамі ў нас цяжка прабіцца. Нават сярэдні статыстычны навуковец можа засвоіць гэтыя веды гадоў праз... дваццаць. Яшчэ і таму што гуманітарныя веды ў нас марудна пранікаюць у свядомасць грамадзян.

**— Ці Вашы доследы маюць шанц на падтрымку дзяржаўнымі ўстановамі?**

— Ёсць хутчэй тормаз, абструкцыя. Калі я спрабаваў бараніць дысертацыю, яе правалілі і я быў вымушаны бараніць у Літве. Там мне сказалі, што беларуская афіцыйная навука не гатова прыняць мае высновы. У прынцыпе ідзе пра тое, што дакументы паказваюць эвалюцыю назвы „Беларусь", што пачаткова назва „Беларусь" не была прыдумана ўласна для Беларусі, а яе не дастасавалі да тэрыторыі. Яна прыйшла з Захаду, з лацінска-англійскага моўнага дыскурсу, ды была створана, так сказаць, лабараторна, штучна. Сярэднявечныя вучоныя-схаласты не ведалі дакладна, да якой тэрыторыі яе дастасоўваць. З XIII ст. па канец XVI ст. удакладнялася прыналежнасць гэтай вымышленай назвы. У XVII-XIX ст. пачала трывала асацыявацца з паўночна-ўсходняй тэрыторыяй Беларусі, а потым расцягвацца больш-менш на тэрыторыю сучаснай Беларусі.

У афіцыйнай навуцы прынятыя аматарскія штампы, таму яны не гатовы пакуль прыняць новыя навуковыя прапановы. Трэба гадоў. Найперш трэба, каб веды праніклі да ўнівесрсітэцкіх падручнікаў... Так што на змену думання пра саміх сябе трэба нейкія дваццаць гадоў...

**— Які тыраж Вашай кніжкі?**

— У першым выданні — тысяча асобнікаў. Кніжка разышлася хутка, на працягу года, прытым я сам літаральна выступіў у ролі кніганошы. Другое выданне — таксама тысяча экземпляраў. За няпоўны год палова ўжо прададзена. Я, канешне, думаю і пра трэцяе выданне... Але зноў-такі трэба шмат дзе ўдакладніць, перапрацаваць і пашырыць другое выданне. Усё ж гэта не такі лёгкі працэс. Таму, нават калі будзе трэцяе выданне, то магчыма праз пяць-сем гадоў, не раней. Да гэтага яшчэ трэба здароўя і сілы волі...

**— Менавіта Вы — чалавек шырокіх зацікаўленняў. Ці няма ў Вас спакусы пакінуць змагацца з гістарычнымі міфамі і заняцца нечым іншым?**

— Некалькі разоў было такое, што хацелася ўсё кінуць. Тэма, якой я зараз займаюся, намнога больш удзячная. Гэта гісторыя харчавання, культура ежы і напояў Літвы і Беларусі.

Харчаваннем займаюся ўжо 15 гадоў і ў гэтай галіне выспелі ўжо пэўныя папулярныя прадукцыі. Гэта дае нават пэўны заробак і выклікае грамадскі інтарэс. Хоць тут таксама нялёгка — у Беларусі няма інтарэсу, каб сістэматычна даследаваць гісторыю харчавання. Як не дзіўна, зацікаўлены гэтым адзін прыватны бізнес.

**— Якія прадукты, знойдзеныя Вамі ў гістарычных крыніцах, можна купіць у Беларусі?**

— Некалькі пасняховых брэндаў ёсць. Самая вядомая — гэта лінія налібоцкіх настоек. Ад трох гадоў прадаецца гарэлка пад назвай „Літвінка", яшчэ рыхтуецца некалькі брэндаў. Я таксама дапамагаю аднаму вядомаму рэстарану ў Мінску.

**— Якое значэнне мае для Вас удзел у беластоцкім кірмашы?**

— Мне цікава было паназіраць за арганізацыяй, за кніжным асартыментам, натхняцца тым, што пабачыў і пагартаў... Усё, канешне, гэта купіў, хоць у апошнія гады ўжо не раз заракаўся, каб зашмат не купляць кніжак. Але нешта так не атрымліваецца...

Пашанцавала наладзіць кантакт паміж нашай мясцовай Налібоцкай аргатурыстычнай супольнасцю і Лакальнай дзейснай групай ад Кнышынскай пушчы. Думаю, што гэта можа быць важна.

1 ☞працяг

# І прыйшла беларуская АНТЫГОНА

Гжэсем. Лявон сказаў, што на працягу многіх гадоў мае ідэю, каб паказаць нешта антычнае на рынку ў Крынках, другім такім пасля Парыжа.

Каліна Залеўская:

— Ці лёгка пасля стольких гадоў размаўляць на пагранічны аб гэтых праблемах?

Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Не. Гэтыя гісторыі ўсё яшчэ чакаюць, каб іх выявіць, і нялёгка іх дастаць. Гэты спектакль таксама кажа аб філасофіі тутэйшага, аб яго сумленнасці ў адносінах з іншымі людзьмі, у падыходзе да таго чаго ён хоча, аб даванні ўсяго сябе.

Каліна Залеўская прыйшла да высновы:

— На тыя ўсе апазіцыі з Падляшша, якія мы ўжо прыручылі, скажам, пасля Ядвабнага, гэта ашарашвае, па сваёй складанасці, у тым ліку накладванне нацыянальных апазіцый. Не проста быць беларусам на гэтай тэрыторыі.

Дана Лукасінская:

— Я сама ўсвядоміла, шукаючы матэрыялы для гэтага тэксту, што да вайны мы не былі дзяржавай, якая ставілася да ўсіх аднолькава. Аб міжваенным перыядзе найчасцей гавораць з сантыментам, пяшчотна, як аб часе сапраўднай свабоды. Гэта няпраўда. Беларусаў на ўсходняй мяжы тадышняй Польшчы трактавалі як людзей другога класа. Стаўленне палякаў, якія там пражывалі, да беларусаў было вельмі адмоўным. Гэта нагадвае мне рабоў у Амерыцы. Такая ж самая была ступень прыніжэння і пагарды (...). Мультыкультуралізму ў Беластоку практычна няма. Гэта пусты піярскі лозунг. Беласток славіцца актамі расізму, антысемітызму, хоць няма там столькі яўрэяў, каб стварыць яўрэйскую абшчыну. Гэтая нянавісць да іншых, перадаваная з пакалення ў пакаленне, пратрымалася тут. Сказаць, што Беласток з'яўляецца радзімай мультыкультуралізму гэта міф. Калі я выяўляла тое, што там адбывалася на Усходзе ў міжваенны перыяд у адносінах да нацыянальных меншасцей, жахнула мяне і мне было сорамна, што я полька.

Матэвуш Вітчук, іграючы адну з галоўных роляў — Ежы Нікара:

— Этнічных асноў тадышняга змагання нам не тлумачаць. Мы пакідаем школы, ведаючы толькі голыя факты, якія нам нічога не даюць. Мы не можам думаць пра іх у геапалітычным кантэксце або проста этнічнай прыналежнасці. Гэты спектакль прымусіў мяне да глыбейшых пошукаў прычын палітычных і этнанацыянальных канфліктаў. Такія спектаклі неабходныя, каб вярнуцца дадому і можа пачаць шукаць нейкіх кніг на гэтую тэму, высвятляць якая была праўда. Ёсць у польскай гісторыі яшчэ некалькі фактаў, якія не выкладаюцца ў школах, і пра якія мы павінны ведаць, не толькі аб польскай перамозе пад Венай. У гэтым спектаклі цяжка для мяне цяпер іграць, разглядаючы тое, што адбываецца паміж Украінай і Расіяй у братазабойчай барацьбе ва Украіне. У нашым спектаклі гучыць сказ: «Гісторыя будзе паўтарацца, пакуль людзі не пачынаюць яе слухаць». Сітуацыя на Украіне з'яўляецца вынікам таго, што пагарджаем гісторыяй і не робім якіх-небудзь высноў з яе.

Каліна Залеўская заўважыла, што не ўсе гледачы зразумелі беларускія сказы, якія гучаць у «Антыгоне». Распытвала, што значыць «усё роўна», што гучыць з вуснаў Агнешкі Мажэйка-Шакоўскай, Ісмены (сястры Антыгоны), а заадно Ксені — сястры Тэрэсы (сучаснай Антыгоны) у кульмінацыйны момант спектакля:

— Гэта знамянальнае, што калі гучыць слова па-руску, многія з нас яшчэ гэта разумеюць, але калі па-беларуску, зусім нічога.

Адна маладая ўдзельніца сустрэчы прызналася і спыталася:

— Я поўная захаплення ад таго, што вы прадставілі на сцэне. Я ўражана спалучэннем старажытнай гісторыі з нашай новай, найнавейшай, не да канца вядомай. Яна надзвычай паслядоўная. Як яго ўспрынялі ў гэтым, як вы кажаце, ксенафобным, расісцкім Беластоку?



Частка беластоцкіх харыстаў

Матэвуш Вітчук:

— Калі мы ігралі для школ, рэакцыя моладзі была вельмі розная. Частка гэтай тэмы нашай гісторыі не ведала. Некаторыя з іх, магчыма, таму што яны родам з гэтай тэрыторыі, аб якой мы гаворым, ведалі, што гэта аб іх гісторыі. Была таксама нявер'е, што гісторыя магла так выглядаць. Школы са звычайным навучальным профілем не мелі аб гэтым найменшага паняцця. Спектакль быў таксама часткова незразумелым для іх, бо аказалася, што іх веды аб «Антыгоне» Сафокла ненаймацнейшыя, як і літаратура ў цэлым.

## У паводцы выдзіманак

У дыскусіі ўзяла голас легенда гісторыі польскага тэатра, праф. Ганна Кулігоўская-Кажанеўская:

— На спектаклі я ўбачыла некалькі рэспектабельных людзей, якія рэдка прымаюць удзел у культурным жыцці Варшавы. Яны выбраліся ў тыя месцы. Гавораць звонкім «г», як у загалоўку спектакля. Сярод іх была і прафесар Альжбета Смулкова, першы амбасадар III РП у Рэспубліцы Беларусь, якая ўзначальвала Кафедру беларускай культуры ва Універсітэце ў Беластоку. Хоць не мае беларускіх каранёў, я не ведаю сярод палякаў большай беларускай патрыёткі, абараняючай мультыкультуралізм гэтых зямель. Я сама з полікультурнай Лодзі, даследавала яе і таксама я згодна з мерканнем, што мультыкультуралізм з'яўляецца сёння свайго роду ўтопіяй, якую высоўваюць у цяперашні час высока, але з дрэннай падрыхтоўкай у рэальнай, пазнавальнай гісторыі.

Адзначыла:

— Сафокл шмат раз пасля вайны вярнуўся на польскую сцэну з «Антыгонай», каб хаваць польскіх жаўнераў, польскія ахвяры. Я пісала магістарскую дысертацыю «Міф Антыгоны ў драме ХХ стагоддзя». Яе прамотаркай была вялікая даследчыца па літаратуры і даследаваннях тэатра прафесар Стэфанія Скварчынская. Яна сказала мне, каб запісаць у працы дэвіз з фіналу «Вызвалення» Выспянскага: «І прыйдзе польская Антыгона». Я змясціла. А вось сюды прыйшла беларуская Антыгона, і я вельмі гэтым усхваляваная.

Пасля паказу на Варшаўскіх тэатральных сустрэчах Агнешка Гурніцкая на папулярным сярод тэатраманаў партале «Teatr dla Was» напісала: «Для рэжысёркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур гісторыя старажытнага праклёну, кінутага на род Лабдакідаў, у тым ліку дзяцей Эдыпа: Антыгону, Ісмену, Этэокла і Палініка, стала адпраўной кропкай для прадстаўлення асабістых драм жыхароў Беласточчыны, якім прыйшлося жыць у час камуністычнага тэрору, пераследу меншасцей, распаўсюджванай прапаганды і неталерантнасці. У час братазабойчага змагання распаленай партыйнай нянавісцю да свабоды і бунту (...). Голас за кадрам, прадстаўляючы гледачам сюжэт апавядання, поўны тону засцярогі і маральнага павучання, прыгадвае ў больш чым індывідуальным і ўніверсальным сэнсе гісторыі з драмы Сафокла. Кранаючы канкрэтныя падзеі ў 1947 годзе, распавядае пра гісторыю і механізмы ўлады. Гэта голас выдуманага, усёведнага апавядальніка, які, стаўшы вышэй за ўсіх герояў, робіць высновы, вынесеныя з гэтага незвычайнага ўрока гісторыі. Паўтарае яго голас зусім іншы, больш зямны і адчувальны. Гэта голас беластоцкай супольнасці, якая ў спектаклі, надзеўшы белыя тогі, замяняецца ў антычны хор, каментуючы ход падзей. У дэкламацыях запрошаных жыхароў Беластока і Крынак можна адчуць прыкметы ненатуральнай сур'ёзнасці, наіўнасці і прастаты, праз якія нясмела прадзіраецца самая звычайная ісціна і шчырасць (...). Прыцягненне да спектакля мясцовага насельніцтва, спроба супрацьстаяць цяжкай гісторыі, падкрэсленне ідэі польска-беларускага дыялогу, мэтай якога з'яўляецца творчае аднаўленне агульнай гісторыі, прыбліжаюць праект Агнешкі Карыткоўскай-Мазур да падзеі не столькі тэатральнага, як сацыяльна-культурнага і адукацыйнага характару. Спроба ўвядзення ў тэатр і антычнай гісторыі, і пасляваеннай праблемы дэлімітацыі межаў, тэмы памежжа і падзелу польскага народа ў выпадку гэтай пастаноўкі, абараняецца не толькі з-за ўдумлівай і паслядоўнай ідэі, але і з-за ўдалай пастановачна-сцэнаграфічнай рэалізацыі. Акцёры, якія іграюць падвойныя ролі, плаўна і ўмела рухаюцца ў часе і прасторы, апранаючы тогі, застываючы ў пафасных позах і жэстах, каб на імгненне ў ваеннай форме крычаць камуністычныя лозунгі. Яшчэ трэба пахваліць знакамітую музыку, складзеную Міхалам Яцашкам, якая становіцца трывожным фонам для драматычнага голасу хору. Голасу, які распавядае гісторыю аб багах больш людскіх, чым людзі, і людзях, якія, па сваёй жорсткасці, перасягаюць найбольш помслівыя бажаствы».

У сваю чаргу Лідзія Рась у польскім штодзённіку «Polska The Times» адзначыла: «У паводцы выдзіманак, якія фундавалі гледачам вядомыя рэжысёры, гэты спектакль, нарэшце, ёсць ЧЫМСЬЦІ. Паспяховае ўвядзенне трагедыі Сафокла ў недалёкае мінулае польска-беларускага паграніччa з'яўляецца важным голасам аб людзях адтуль, трагічна дасведчаных гісторыяй, прымушаных зрабіць трагічныя выбары».

Яна прыйшла да высновы: «Пакуль крытэрыем адабрэння будуць палітычныя погляды, рэлігія, нацыянальнасць, пакуль будуць дамінаваць прадузятасць, цкаванне адных на адных, не будзе канца падзелам, і прыйдзецца нам рабіць чарговыя ўрокі гісторыі. Спектакль Карыткоўскай-Мазур паказвае, што няма чорнага і белага, няма лёгкіх выбараў, няма невіноўных».

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Сумны музей

Упершыню пасля трыццацігадовай адсутнасці наведаў я музей у Ратушы ў Бельску-Падляшскім. Чакаў я візіту ў лекара і свабодны час вырашыў скарыстаць для яго наведання. У маіх успамінах жыло ўражанне пустых нецікавых музейных зал і даміначыі вялікафарматных фатаграфій. І вось пасля гадоў апынуўся я ў месцы, дзе быццам бы спыніўся час: і надалей нічога цікавага няма. Нейкая часовая выстава жывапісу — гэтае можна пабачыць у любым музеі ў Польшчы. І добра, што ёсць такое месца, у якім паказваецца творчасць жывапісцаў. Карціны трохі павісяць, хто схоча, той паспее паглядзець іх, а для самога мастака такая экспазіцыя мае вялікае значэнне, асабліва калі ёй спадарожнічае каталог. І хаця выстава мяне не цікавіла, прыдзірацца да яе не буду — папросту ў мяне іншы густ, чым у мастака.

Потым была перасоўная выстава польскіх народных музычных інструментаў. Даволі цікавая, але без ніякіх сувязей з нашым рэгіёнам. І ўрэшце паказ падляшскіх абрадавых ручнікоў. Вельмі цікавая выстава, тым больш што ручнікі паходзяць са сваёй калекцыі музея. Думаю, што варта падумаць пра пастаянную экспазіцыю гэтага важнага фрагмента падляшскага фальклору. Пакуль пастаянным экспазіцыйным элементам з'яўляюцца вялікафарматныя здымкі колішняга Бельска, размешчаныя на музейным калідоры. Не скажу, цікавыя і павучальныя, але і расчаравальныя: так мала старажытны Бельск можа паказаць? Ці ж не захаваліся гістарычныя помнікі, звязаныя, напрыклад, з Замкавай гарой ці самім горадам? Ці ніхто не праводзіў археалагічных раскопак? Ці не захаваліся іншыя сляды колішняга быту бельскіх мяшчан? Не веру. Таму чаму гэтага ўсяго не паказаць? Ці ж старажытны Бельск не мае чым пахваліцца? А можа гістарычныя помнікі сведчаць аб выразным рускім абліччы горада і таму ніхто не хоча імі пахваліцца?

Даволі часта бываю ў Рэгіянальным музеі ў Седльцах. Таксама месціцца ён у колішняй ратушы, але — у адрозненне ад бельскага музея — ён жыве! Часта ладзяцца ў ім часовыя выставы, наогул вельмі цікавыя. Ёсць там таксама сталая экспазіцыя, з якой можна многа даведацца аб мінулым горада і яго жыхароў. Значыць, можна, калі ёсць ахвота! А наш жа Бельск — горад намнога старэйшы за Седльцы, а паказвае толькі некалькі фатаграфій. Цяжка ў гэтае паверыць.

Аднак у бельскай ратушы ёсць малое месца, да якога буду вяртацца, заглядаць. Гэта кіёск-каса пры ўваходзе. Можна ў ім купіць вартасныя кніжкі па мясцовым краязнаўстве (таксама і на беларускай мове) і прыгожыя паштоўкі з выявамі Бельска. Але гэтага трохі малавата як на такі вялікі, гістарычны аб'ект, які носіць горду назву музея.

**Марк ЦЫБАРТ**

## Папраўка

У „Ніве" № 16 ад 20 красавіка на стар. 4 у інфармацыі пра вынікі ХХ Алімпіяды па беларускай мове намі была допушчана памылка. Алімпіяда адбылася 27 сакавіка **2014** года. Просім прабачэння.

**Рэдакцыя**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Жывая прыгожая легенда!









Вясна-красна! — такімі словамі вітаем адраджэнне прыроды ды співаем ёй вяснянкі, водзячы вясёлыя карагоды. Пры нагодзе думаем пра „красны" колер: які ж ён на самой справе?! Хтосьці падкажа, што гэта колер „прыгожы". Іншы дабавіць: прыгожы як колер кветак. Мы ведаем, што беларуская кветка гэта таксама „краска". „Красны" ў нас таксама колер велікодных яек, таму што іх не фарбуем, а красім. „Красны" ў нас тыдзень пасля Вялікадня. Праўда, тады ўсе дні называюць таксама светлымі і іх лічаць святочнымі.

Сутыкненне чысціні і прыгожасці закадаванае ў беларускім бел-чырвона-белым сцягу. Ён лунае ў нашых марах і наклікае цікавыя гісторыі. Я і зараз пад вялікім уражаннем ад сустрэчы з вучнямі III „а" класа.

— Бел-чырвона-белы сцяг гэта памятка адной пераможнай бітвы, — пачаў Эрык Базэен. — У гэтай бітве быў ранены адзін князь. Яму абвязалі галаву белым бінтом, які прамок крывёю ваяра. Здавалася, дружына князя будзе разбіта. Аднак князь не падаў духам. У пэўны момант ён сарваў з галавы белую павязку з чырвонай паласой пасярэдзіне і стаў заклікаць да бою. Яго прамочаны крывёю бінт падзейнічаў як натхненне. Яго ваяры рушылі ў бой з падвойнай сілай і перамаглі ворага...

Легенда, якую расказаў Эрык, выклікала ў класе вялікае ажыўленне. Словы сябры падхапіў іншы трэцякласнік Крыспін Шэфлер. Хлапчукі пахваліліся малюнкамі са сваіх сшыткаў, дзе на першай старонцы красаваліся бел-чырвона-белыя сцяжкі.

Пасля далучыліся апошнія сябры. Разам са сцяжком яны паказвалі каляровыя пісанкі. У выніку атрымаўся „красны" настрой, як у вясновых песнях. А ў акно заглядала радаснае сонейка.

Легенду пра бел-чырвона-белы сцяг напісаў і праспяваў паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш. Яе можам таксама прачытаць або пачуць на CD як казку аўтарства Сяржука Вітушкі.

Гэтую гісторыю можна таксама размалёўваць на велікодных яйках і паштоўках. Гэта задача для нашых чытачоў на „красна-светлы" тыдзень.

ЗОРКА

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Увага, конкурс!!! (№ 17-14)

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 4 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1.

Спаважны, чыноўны,
Ён стаў на страсе,
У ботах чырвоных,
Каб бачылі ўсе.
(Б....)

2.

Без нары не можа жыць,
хвост пушысты мае,
як ад ворага бяжыць,
след ім замятае.
(Л...)

Адказ, на загадкі № 15: кнігаўка, зоркі і месяц.
Узнагароды, калекцыянерскія гумкі, выйгралі Міхал Аўгустынчук і Аляксандра Лашэўская з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Віншуем!

Сільвія ГРЫКА, Караліна ШЫЦІК, Міхалова

### Мушка

Лятаў матылёк,
Спаткаў малую мушку.
Матылёк прывітаўся!
А мушка зачаравалася!
У папугая ператварылася,
І ўжо забылася,
Што мушкай была.

Караліна КОНДРАТ, Нараўка

### Кабылка Каштанка

У майго дзеда ёсць
Кабылка Каштанка.
Дзед корміць яе яблычкамі
З самага ранку.
Цукерачкамі дзядуля яе частуе,
А кабылка вельмі яго шануе.

# ЛІЦЭІСТЫ З ЖЫВЫМ СЛОВАМ



Ліцэісты з Бельска-Падляшскага

Завяршыўся трыццаць пяты конкурс „Сцэнічнае слова". Апошнімі выступілі ліцэісты — з Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў, адзін з Сакольскага ліцэя, у індывідуальнай катэгорыі дэкламуючыя паэзію і прозу. У катэгорыі „Тэатр малых форм" выступіў толькі адзін калектыў — з Гайнаўкі, падрыхтаваны Янам Карчэўскім. Журы конкурсу — Васіль Сегень, Яніна Плютовіч і Юліяна Дораш (акцёрка, якая шмат гадоў прымала ўдзел у беларускіх дэкламатарскіх конкурсах) падзякавала ўдзельнікам, якія з такой пасіяй паставіліся да беларускага слова, іх настаўнікам і тым, хто іх матываваў да працы. Калі гаворка пра агульны ўзровень выступленняў і падбор рэпертуару, старшыня камісіі В. Сегень ацаніў, што сёлета ліцэісты нашмат лепш выступілі, чым гэта было ў мінулых гадах. Яго як мовазнаўцу асабліва ўцешыла маўленне, цікавая была таксама шырокая падборка рэпертуару: шмат было патрыятычных тэкстаў і такіх, якія датычаць важных надзённых спраў для чалавека, звязаных з айчынай, пачуццямі, жыццём. Сярод аўтараў твораў выбраных для прадстаўлення былі і класікі беларускай літаратуры, і маладзейшае пакаленне аўтараў — Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Пімен Панчанка, Барыс Сачанка, Авяр'ян Дзеружынскі, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Сяргей Грахоўскі, Васіль Вітка, Міхась Стральцоў, Пятрусь Макаль, Масей Сяднёў, Юрась Свірка, Данута Бічэль, Яўгенія Янішчыц, Ніна Мацяш, Мікола Мятліцкі, Васіль Жуковіч, Вера Бурлак, Анатоль Крэйдзіч, Наста Манцэвіч, Маргарыта Прохар, Алена Лянок, Міраслава Навіш, Уладзімір Някляеў. З беластоцкіх аўтараў вучні падабралі для дэкламацыі творы Сакрата Яновіча, Міры Лукшы і Юркі Геніюша. Для тэатральнай пастаноўкі Гайнаўскі белліцэй выбраў п'есу „На вёсцы" Францішка Аляхновіча, дзе ў сваіх ролях вылучыліся дзяўчаты, узнагароджаныя за ролі Анелькі — Марыя Краўчук і Цыганкі — Наталля Дмітрук.




Уршуля Баравік

Першыя месцы занялі Магдаліна Гаўрылюк (Гайнаўка), Якуб Андрацкі (Саколка), Патрыцыя Буркевіч (Бельск), другія — Марыя Весялоўская (Бельск), Ангеліка Нікіцюк (Бельск), Дзям'ян Сурэль (Гайнаўка), трэція — Анна Нестэрук (Бельск), Уршуля Баравік (Гайнаўка), Адрыянна Шуй (Бельск). Гайнаўскіх ліцэістаў рыхтавалі Іаланта Грыгарук і Ян Карчэўскі, бельскіх — Анна Бжазоўская і Яўгенія Таранта.

Яўгенія Таранта: „Хачу адзначыць, што сярод нашых удзельнікаў ёсць вучні, якія толькі ў ліцэі пачалі вывучаць беларускую мову, і ўдала выступаюць на нашых мерапрыемствах не першы раз, здабываючы лаўры для Бельскага белліцэя". І хаця не ўсе атрымалі ўзнагароды, але запамятаюцца іхнія дэкламацыі, як выступленне Кшыштафа Алейнічака з творамі Някляева і Сяднёва ці Юліты Ваўрашук з творамі Янішчыц і Крэйдзіча. Вельмі тэатральна выступіла Анна Нестэрук.

— Аж мурашкі пайшлі мне па спіне ад тваёй дэкламацыі „Беларускай песні"! — прызналася я як слухачка.

— Так і трэба было! — усміхнулася дэкламатарка, якой можна было б прадвесціць акцёрскую будучыню, ды яна мяркуе стаць лекарам.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Вершы Віктара Шведа

### Пайдзі на пошту

— Пайдзі сынок на пошту
Ліст пільны трэба выслаць.
— Нават сабакі коштам
Навонкі нельга выйсці.

— А ці ж я прапаную,
Мілы сыночак Якаў,
Каб ты ў пагоду злую
Забраў з сабой сабаку?

### Не навучыўся чытаць

Янка з трыўмфам кажа:
— Татка, пісаць я ўжо ўмею.
— Гэта з будучым вяжам,
У навуцы надзея.

Прачытай мне, дзіцятка,
Чым ты так замарыўся.
— Дык чытаць, мілы татка,
Яшчэ не навучыўся.

*Вікторыя БАРЭЧКА,*
*Тарнопаль, школа ў Нараўцы*

## Піяніна

*Аб'ект, з якім у цябе*
*так многа ўспамінаў.*
*Памятаеш, калі ты сядзела побач яго.*
*Ты глядзела на яго твар.*
*Ты адчувала яго пах.*
*Ты чула яго прыгожую музыку і смех.*
*Музыка, якая цякла з-пад яго*
*Пальцаў, якія танцавалі па клавішах.*
*Яго твар адлюстроўваўся ў чорным,*
*Глянцавым лаку.*
*Цяпер сядзіш, бабуленька,*
*І спаглядаеш на гэтыя, дарагія табе,*
*Успаміны.*

## № 17 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 13:

Сказ, як, купля, ронда, прыгожы, прыгода, расада, маг, кнігі, сатыр, арак. Прас, Прага, рыс, крыга, год, продак, ложа, на, яны, пір, га, красавік.

Узнагароды, **калекцыянерскія гумкі**, выйгралі **Матэвуш Бурачэўскі**, **Марыя Савіцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Ірынка Анішчук**, **Уля Марчук** з Нараўкі, **Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Крыстыян Стоцкі**, **Сэбастыян Стары** з Міхалова, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Strój | Trawka | Tożsamość / Ryż | | | | | | | | | |
| | | | | | Marzenie | | Mag | Mat | Tydzień | | Biskup |
| Rzym | | | | Oj / Hamak | | Raj | | | | | |
| | | | Tom / Góra | | | | | Oda | | | |
| Pas | | Korowód | | | | | | | | | |
| | | Gaj / Ona | Maj | | | | Dziadek / Mnie | | | | |
| Pociąg do czegoś | | | | | | Moje | | | | | |
| | | | | | | | | | | | |
| Ganek | Oj! | | | Garstka | | | | | | | |

# БЕЛЬСК
## на выдатна!

**Вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім імя Яраслава Кастыцэвіча ў бягучым школьным годзе дабіліся поспехаў у прадметных конкурсах. Перамагалі яны ў дэкламатарскіх і мастацкіх конкурсах ды спартыўных спаборніцтвах, дабіваюцца таксама добрых вынікаў у вучобе. Бацькі ахвотна пасылаюць дашкольнікаў у бельскую «тройку», а навучанне роднай беларускай мове з'яўляецца козырам школы. Нават прыезджыя пасылаюць сваіх дзетак у школу з дадатковым навучаннем беларускай мовы па прычыне высокага ўзроўню навучання. У «тройцы» плануецца арганізаваць пяць першых класаў падставовай школы, што пацвярджае добры імідж школы ў грамадстве.**


Фота Мар'юша Баланы

Лаўрэаты прадметных конкурсаў з ПШ № 3



Фота Мар'юша Баланы

Лаўрэаты прадметных конкурсаў з белгімназіі

— У нашай школе дзейнічаюць кружкі зацікаўленняў, у рамках якіх настаўнікі рыхтуюць вучняў да конкурсаў. У выніку дабіваюцца яны поспехаў. Відаць вялікую ангажаванасць настаўнікаў у падрыхтоўку вучняў да прадметных конкурсаў. Дзеткі і моладзь займаліся на пазаўрочных занятках і практычна кожны дзень у час зімніх канікулаў настаўнікі працавалі ў школе з удзельнікамі конкурсаў. Канешне, поспехаў дабіваюцца толькі здольныя вучні, якія многа працуюць. Думаю, што так, як і ў мінулых гадах, нашы школьнікі і гімназісты здабылі найбольш званняў лаўрэата ваяводскага прадметнага конкурсу як у маштабе горада Бельска, так і ў маштабе Бельскага павета, — сказала дырэктар «тройкі» Яўгенія Васілюк. — Нядаўна першакласнікі пад наглядам настаўніц Анеты Артэмюк і Аліны Сахарэвіч, а таксама другакласнікі пад наглядам Ірэны Кандрацюк падрыхтавалі па-беларуску тэатральныя выступленні і занялі прызавыя месцы ў Аглядзе беларускіх сцэнічных форм. Нашы вучні перамагалі сёлета ў беларускім дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і займалі прызавыя месцы ў іншых дэкламатарскіх конкурсах.

Сёлета лаўрэатамі ваяводскага прадметнага конкурсу белгімназісты станавіліся ажно 28 разоў, а вучні падставовай школы — 17 разоў. У «тройцы» многа здольных дзетак. Паасобныя вучні перамагалі на двух, трох, а нават на чатырох прадметных конкурсах на ўзроўні ваяводства. Караліна Ткачук з белгімназіі стала лаўрэатам ажно на 4 прадметных конкурсах: па хіміі, фізіцы, матэматыцы і геаграфіі.

— У першым класе гімназіі я стала лаўрэатам конкурсу па расійскай мове, у мінулым школьным годзе — па матэматыцы, хіміі і польскай мове, а сёлета — ужо па згаданых чатырох прадметах. Мой любімы прадмет — матэматыка. Я змагалася ў прадметных конкурсах, каб быць звольненай з завяршальных гімназічных экзаменаў. Не ўдалося мне стаць лаўрэатам конкурсу толькі па англійскай мове, — сказала Караліна Ткачук.

Ева Васілюк — лаўрэатка конкурсу па хіміі і англійскай мове падкрэсліла, што рыхтавалася на пазаўрочных занятках і дома.

— Я хацеў бы працягваць адукацыю ў Бельскім белліцэі і ў будучыні паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову на інфарматыку. Аднак стараюся абмяжоўваць працу з камп'ютарам, каб быў час на іншыя прадметы. У гэтым годзе ўдалося мне стаць лаўрэатам конкурсу не толькі па інфарматыцы, але таксама па матэматыцы, фізіцы і хіміі. Памятаў я матэрыял, які мы аналізавалі на ўроках, вучыўся на пазаўрочных занятках і дома паўтарыў пройдзенае. А найбольш вучыўся па хіміі, — сказаў белгімназіст Рыгор Ігнатовіч.

— Па біялогіі стаў я лаўрэатам раней. Гэты прадмет найбольш мяне цікавіць, бо хачу стаць лекарам. Гісторыя мяне цікавіць таксама, а па геаграфіі і польскай мове я добра вучыўся і рады, што стаў лаўрэатам па гэтых прадметах. У трэцім класе хачу яшчэ пазмагацца за званне лаўрэата па хіміі і фізіцы, — сказаў Кшыштаф Лушчынскі, у сям'і якога ёсць ужо лекары.

Па беларускай мове лаўрэатамі сталі Анета Грыгарук, Ніка Юрчук, Іаанна Кобус, Вераніка Кардзюкевіч і Патрыцыя Федарук; па расійскай мове — Юсцінія Якубюк, Анджаліка Сцепанюк, Мартына Улашонак і Віялета Дработка; па польскай мове — Наталля Казлоўская і Ева Аврэчук; па біялогіі — Губерт Анішчук і Міхал Зінкевіч; па матэматыцы — Дам'ян Тамчук і Габрыеля Снарская.

Сярод вучняў падставовай школы пяць асоб сталі лаўрэатамі па двух прадметах, але галоўным героем стаў Адам Заброцкі — вучань чацвёртага класа, лаўрэат па гісторыі. Каб дабіцца такога звання, ужо з трэцяга класа хадзіў ён на заняткі гістарычнага кружка і тады пачаў засвойваць матэрыял са старэйшых класаў. Рыхтуючыся да конкурсу, засвоіў матэрыял па гісторыі з чацвёртага, пятага і шостага класаў.

— Я вельмі люблю гісторыю і прыемна было вучыцца па падручніках для старэйшых класаў. Я люблю чытаць гістарычныя кніжкі. Конкурс па гісторыі сёлета не быў складаным і таму ўдалося мне стаць лаўрэатам. У пятым і шостым класах я хацеў бы яшчэ прыступіць да прадметных конкурсаў па беларускай, польскай, расійскай і англійскай мовах і, канешне, па гісторыі, — сказаў Адам Заброцкі і дадаў, што матэматыка яго таксама цікавіць.

Юлія Банькоўская асабліва любіць вучыцца мовам. Стала яна лаўрэатам конкурсаў па беларускай і польскай мовах. Пакуль не атрымалася ў яе падчас прадметнага конкурсу па расійскай мове. Юлія лічыць, што веданне граматыкі беларускай мовы дапамагло ёй так добра справіцца з конкурсам. Кацярына Лукашук стала лаўрэатам па матэматыцы і англійскай мове. Па матэматыцы дапамагала ёй рыхтавацца бабуля, якая раней была настаўніцай матэматыкі, а па-англійску яна любіць размаўляць.

— У мяне не атрымалася падчас конкурсу па англійскай мове, але я рада, што стала лаўрэатам па беларускай і польскай мовах. Я асабліва люблю беларускую мову і таксама дэкламую па-беларуску, — заявіла Аляксандра Пэткаў.

— Гісторыяй зацікавіў мяне мой бацька Дарафей, які таксама прывіў мне любоў да беларускай мовы. Аднак беларускую мову я асабліва палюбіў, займаючыся ў тэатральным гуртку «Антракт» у Бельскім доме культуры і дэкламуючы па-беларуску, што рабіў пад наглядам настаўнікаў беларускай мовы і мамы Альжбеты, — заявіў Максім Фіёнік, лаўрэат конкурсу па беларускай мове і гісторыі.

Матэвуш Мялешка стаў лаўрэатам па матэматыцы і прыродзе. Любіць ён вучыцца прыродзе, а па матэматыцы атрымлівае добрыя ацэнкі. Лаўрэатамі па беларускай мове сталі яшчэ ў падставовай школе Вераніка Семянюк і Наталля Шварц, па матэматыцы — Матэвуш Валасовіч і Якуб Якімюк, а па прыродзе — Матэвуш Сцепанюк і Рафал Саберай.

У бельскай «тройцы» за вельмі добрыя вынікі ў вучобе вучні атрымліваюць стыпендыі дырэктара школы. Апрача сярэдняй ацэнак бярэцца тут пад увагу таксама вельмі добрыя паводзіны і званне лаўрэата прадметнага конкурсу. Дзеткі і моладзь атрымліваюць таксама стыпендыі бургамістра Бельска-Падляшскага і прэміі за поспехі ў спорце. У гэтым школьным годзе вучні бельскай «тройкі» дабіліся поспехаў па гандболе — дзяўчаты і хлопцы падставовай школы занялі трэція месцы, а гімназісткі і гімназісты апынуліся на пятым месцы ў Падляшскім ваяводстве.

Дырэктар Яўгенія Васілюк звярнула ўвагу на жаданне бацькоў пасылаць дашкольнікаў на адукацыю якраз у бельскую «тройку». У першы клас паступіла ўжо 107 дзетак, у тым ліку трыццаць трое шасцігодкаў, якія вымушаны пачаць адукацыю ў гэтым узросце і васьмёра шасцігодкаў, якія маглі б яшчэ год займацца ў садзіку.

— У асноўным у нашую школу пасылаюць дзетак беларусы, якія раней вучыліся ў нашай школе, і тыя, якім дарагія беларуская мова, культура і нашы традыцыі. Радуе нас, што ў нашую школу запісваюць дзетак прыезджыя, між іншым асобы з ліку кіраўнічага і інжынерскага персаналу фабрыкі міжнароднай групы «Ікея», што дзейнічае непадалёк ад нашага горада. Яны рашаюцца пасылаць дзетак у нашу школу якраз з-за высокага ўзроўню навучання, — заявіла дырэктар Яўгенія Васілюк. — Выпускнікі нашай школы найчасцей паступаюць у Бельскі белліцэй, але па некалькі асоб рашаецца вучыцца ў лепшых беластоцкіх ліцэях.

**Аляксей МАРОЗ**

# Мікалай Янчук і Корніца

Вікіпедыя: „Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1885). У 1889-1903 сакратар аддзялення этнаграфіі [Імператарскага] Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце, з 1901 старшыня і кіраўнік Музычна-этнаграфічнай камісіі пры ім. Адзін з заснавальнікаў часопіса „Этнографическое обозрение”, дзе друкавалася шмат беларускіх матэрыялаў. Пасля 1917 чытаў курс беларускай і ўкраінскай літаратур у Маскоўскім універсітэце, удзельнічаў у рабоце камісіі па арганізацыі Беларускага ўніверсітэта, у 1921 прафесар кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі БДУ. У 1918-21 член Беларускага навукова-культурнага таварыства ў Маскве, супрацоўнічаў з Беларускім нацыянальным камісарыятам і Беларускім пададдзелам аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР. Вывучаў побыт і народную творчасць усходніх славян. Даследаваў беларускі, літоўскі, польскі, рускі, украінскі музычны фальклор. Матэрыялы экспедыцыі ў Мінскую губерню (у 1886) друкаваў у газеце „Минский вестник” (1886-87) і навуковых выданнях. Збіраў і апрацоўваў беларускі музычны фальклор. Аўтар музычна- фальклярыстычных прац „Маларускае вяселле ў Корніцкай парафіі Канстанцінаўскага павета Сядлецкай губерні” (1886), „Па Мінскай губерні” (1889), працы па антрапалогіі „Некаторыя дадзеныя да пытання аб антрапалагічным тыпе беларусаў” (1890), апрацовак народных песень, рэдактар музычна-фальклорных зборнікаў. Цікавіўся беларускім нацыянальным адраджэннем, падтрымліваў кантакты з рэдакцыяй „Нашай нівы”.

Гэта, па сутнасці, амаль уся пра яго інфармацыя, даступная ў інфармацыйных фондах аграмаднага сеціва. Інфармацыя пра Мікалая Янчука, ураджэнца вялікай вёскі Корніца, што зараз у Лосіцкім павеце Мазавецкага ваяводства. „Słownik geograficzny Królestwa Polskiego” з 1902 года так пісаў пра гэтую мясцовасць: „Kornica, wieś i folwark, pow. konstantynowski, gm. i par. Kornica, poczta Łosice, okr. sądowy Huszlew. Ciągnie się ta wieś blisko 2 mile, ma cerkiew paraf. dla ludności rusińskiej i szkołę początkową, urząd gminny, gruntów włościańskich 3746 morgów, domów 146, mieszkańców 960, Rusini. Była grecko-unicka cerkiew parafialna erygowana 1578 r., 1843 odnowiona, należała do dek. łosickiego”.

Падаўся я ў родную мясцовасць Мікалая Янчука, не надта спадзяючыся ў сённяшніх рэаліях знайсці там нейкі па ім след. Побач аўтобуснага прыпынку пабачыў я два старыя праваслаўныя крыжы-намагільнікі з кірылічнымі эпітафіямі, а побач іх мемарыяльная плітка, устаноўленая ў 2003 годзе вернікамі Носаўскага праваслаўнага прыхода. Старыя эпітафіі і польскамоўная інфармацыя на новай плітцы лаканічна паведамляюць пра сямейную трагедыю тадышняга корніцкага святара, якому заraз пасля родаў памерла маладая жонка, а неўзабаве і немаўлятка; адбылося гэта ў 1879 годзе — ім прысвечаны кранальны чыгунны крыж. Сам настаяцель, Север'ян Серайчкоўскі, памёр у 1905 годзе і пахаваны побач. Яшчэ пару гадоў таму вакол магілак была жалезная агароджа, аднак яна ўжо знята, мабыць у ходзе пракладкі новай маставой на прылягаючай аўтастаянцы.

Згаданыя магілкі, па ўсёй верагоднасці, знаходзяцца на месцы былога царкоўнага цвінтара, а аўтастаянка — таксама на былым царкоўным пляцы. Побач крыжоў будынак бадай гандлёва-грамадскага прызначэння, у якім дзве крамы, а ў крамах лянівае чаканне нейкіх пакупнікоў. Спытаў я адну з прадавальніц пра гмінную бібліятэку, а яна параіла даведацца пра яе ў школе, што з другога боку вуліцы.



Інтэр'ер корніцкага касцёла

Сімпатычная бібліятэкарка на маё запытанне пра нейкую мясцовую манаграфію паказала мне тры невялікія кніжкі, аб'ёмам па сто некалькі старонак кожная. Былі гэта каляровы гмінны буклет, гісторыя самой вёскі ды гісторыя парафіі. І ў кожнай з іх былі першапланавыя згадкі пра Мікалая Янчука — па іх відаць, што ён з'яўляецца дагэтуль адзінай адтуль вялікафарматнай постаццю...

Юзаф Герэш, аўтар гісторыі вёскі, так характарызаваў Мікалая Янчука: „Niestety, ze smutkiem można stwierdzić, że Mikołaj Jańczuk (1859-1921), etnograf i folklorysta, który urodził się w Kornicy, twórczość swoją publikował jedynie w języku rosyjskim i ukraińskim i dlatego jest w Polsce mało znany. Już jego pierwsze dzieło z 1884 r. pt. „Małoruska swad'ba w kornickom prichode” obliczone było na użytek uczonych i władz carskich, które w tym czasie krwawo i bezlitośnie prześladowały jego kornickich rodaków. Jańczuk, który przyjął prawosławie i narodowość nieturalnej Polski”. Паводле вясковага гісторыка этнограф і фалькларыст „tylko kopiował kornickie obyczaje i udowadniał, że są ukraińskie”...

Інакш да спадчыны Мікалая Янчука паставіўся аўтар гісторыі Корніцкай парафіі ксёндз доктар Пётр Саўчук, які зараз з'яўляецца дапаможным біскупам Сядлецкай дыяцэзіі. Даследчык сягае здагадкамі ў змрочную тамашнюю даўніну: „Istnieją opinie, że Kornica była miejscem osadnictwa drobnej szlachty zagrodowej. Wydaje się, że bliższe prawdy jest twierdzenie o rusińsko-chłopskim pochodzeniu zdecydowanej większości dawnych mieszkańców Kornicy. Świadczy o tym między innymi brzmienie ich nazwisk. W Kornicy osiedliła się w dużej liczbie ludność wschodniosłowiańska, pochodząca z terenów obecnej Ukrainy, zwana Rusinami. Stanowili na Podlasiu większość (ok. 300 tys.), ale przemieszani byli ze szlachtą polską... Korniczanie posługiwali się własną mową, która jednak funkcjonowała jedynie na poziomie gwary. Była bardzo zbliżona do języka ukraińskiego. Na Podlasiu nie-




Сляды праваслаўя ў Корніцы

polską, mógł bez przeszkód zbierać swe materiały w Kornicy i okolicy, a w tym samym czasie Stefan Żeromski czynił to po kryjomu i musiał potajemnie zaangażować do tego celu młodego chłopca spod Łosic i został wkrótce usunięty z Podlasia. Nawet później, gdy kornicki uczony zasiadał już z moskiewskiego mandatu w Dumie państwowej, w 1913 r. z żalem opublikował stwierdzenie, że „podlascy małorusowie” nie potrafili się przeciwstawić naciskowi kulmal każda parafia mówiła nieco inną gwarą, raz bardziej zbliżoną do ukraińskiego, białoruskiego czy rosyjskiego, kiedy indziej zaś do polskiego. Jedyny w swoim rodzaju przykład kornicko-ukraińskiej mowy podlaskiej z XIX w. można znaleźć w poetyckim utworze Mikołaja Jańczuka pt. „Do Janki Kupały” (Янкові Купалі). Ten niemal zupełnie nieznany autor, pochodzący z Kornicy, specjalnie opracował pisownię i marzył o powstaniu literatury pięknej w swoim rodzimym języku poznanym w dzieciństwie. Bardzo bolał nad tym, że jego krajanie „pod wpływem księży i panów” odwracają się od swej specyfiki narodowej, nie chcą być „ruskimi”, a od katolików-Polaków żyjących między nimi przyjmują język, strój i obyczaje. Bolał, że nie cenią swego języka, który przecież nie jast gorszy od innych”. Гэта карціна не чужая і нашым тутэйшым рэаліям. І далей: „Język polski był postrzegany jako język panów, pociągający swoją nobilitującą atrakcyjnością, natomiast miejscowa gwara była mową prostego ludu. Posługiwano się nią w codziennych rozmowach między swymi. Od kilkudziesięciu lat nie mówi się już w Kornicy dawną gwarą, choć jeszcze starsi rdzenni mieszkańcy ją pamiętają z lat młodzieńczych. Dziś niepodzielnie króluje język polski i jedynie z ciekawości mógłby ktoś sięgnąć do twórczości Mikołaja Jańczuka, gdzie — jak zapewnia prof. Bazyli Białokozowicz — można znaleźć obfite źródło kornickiej gwary z końca XIX w., jak również jej naukowe omówienie”. Кніга а. д-ра Пятра Саўчука „Kornica. Dzieje pisane krwią i kredą” выйшла ў 2009 годзе...

А. Пётр Саўчук заўважае, што першая парафія ў Корніцы існавала раней, чым падаюць некаторыя даследчыкі, бо ўжо з 1545 года выводзіцца звестка пра тамашнюю Святаюр'еўскую царкву. Спярша царква была за вёскай, але ў 1560 годзе па просьбе прыхаджан была перанесена, з дазволу караля Жыгімонта Аўгуста, у цэнтр Корніцы. З заключэннем Берасцейскай уніі Корніцкі прыход верагодна падпарадкаваўся яе пастановам, аднак на працягу дзесяцігоддзяў нейкіх карэнных змен не было. Толькі пасля Замойскага сінода 1720 года пачалася латынізацыя ўніяцкіх цэркваў, якія шторaз больш сталі нагадваць касцёлы, так у абрадавым, як і дэкорным плане; латынізацыя абазначала таксама паланізацыю. Гэты працэс прадвызначыў і будучыню тамашніх канфесійных спраў. Калі царская ўлады ў палове 1870-х гадоў адміністрацыйна перавялі ўніятаў у праваслаўе, вернікі не пагаджаліся з такой канверсіяй і замест цэркваў сталі наведваць касцёлы, хаця за гэта пагражалі суровыя кары. У недалёкай ад Корніцы Лясной, дзе каталіцкі касцёл-санктуарый быў пераменены ў царкву, вернікі папскага падпарадкавання не заходзілі ў храм, толькі маліліся звонку яго.

Пасля выхаду царскага Маніфеста па ўмацаванні верацярпімасці 1905 года ў Корніцы сталі ўзводзіць новы каталіцкі касцёл. Было каму, бо зараз пасля абвяшчэння маніфесту з дзвюх з паловай тысяч корніцкіх прыхаджан пераважная большасць перайшла ў каталіцтва — пры праваслаўі асталіся толькі 43 асобы, а ў суседніх Шпаках толькі дзве з тысячы. Касцёл, які сталі будаваць у 1906 годзе, два гады пазней быў ужо асвечаны.

А што сталася са старой корніцкай царквой? Пасля Першай сусветнай вайны ў ёй не стала вернікаў. Хаця ў 1919 годзе яна была перанята каталікамі, аднак стаяла бяздзейна і ў 1924 годзе яна была знесена.

Да гэтага, даволі павярхоўнага, апісання Корніцы і найбольш вядомага ейнага выхадца, варта дадаць яшчэ пару слоў. Бацька Мікалая Янчука быў старастам у корніцкай царкве. За сваю ўніяцкую прывязанасць давялося яму пабываць у зняволенні: у 1867 годзе трапіў на год у турму, а два гады пазней — на дзевяць месяцаў; памёр праўдападобна ў 1878 годзе. А Мікалай Янчук закончыў гімназію ў Белай-Падляшскай, стаў гувернёрам у прыстойнай сям'і тамашняга царскага камісара, з якой у 1879 годзе выехаў у Маскву, дзе прадаўжаў навуку і навуковую ды творчую дзейнасць.

Аляксандр Ельскі ў пецярбургскім тыднёвіку „Край” так у 1888 годзе пісаў пра Мікалая Янчука: „Ciekawe etnograficzne studya p. Janczuka o ludzie białoruskim, zamieszczane od lat paru w „Mińskim Listku”, zasługują na najpilniejszą uwagę badaczy. Wszystko tam wskazuje zacną tendencyę i sumienność badań autora...”.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Нашы ліцэі і мы (1)



Маю на ўвазе Бельскі і Гайнаўскі беларускія ліцэі. Хаця ў сваёй даволі доўгай гісторыі па-розаму яны афіцыйна называліся, але ў народзе іх заўсёды называлі беларускімі ліцэямі. І так называць іх будзем тут. З імі шчыльна пераплятаецца амаль уся мая біяграфія.

У 1952 годзе я паступіў у Бельскі ліцэй і ў 1956 годзе я закончыў яго. У 1963 годзе распачаў сваю першую працу ў Гайнаўскім ліцэі і пасля трыццаці пяці гадоў бесперапыннай працы ў ліцэі, адышоў на пенсію. Пасля выхаду на пенсію не парываю сувязі з абодвума ліцэямі, бо кожны год, напрыклад, удзельнічаю ў камісіях па правядзенню алімпіяд беларускай мовы і літаратуры. Сёлетняя з'яўляецца ўжо дваццатай па ліку. Праводзіцца яна ў Бельскім і Гайнаўскім ліцэях і асноўнымі ўдзельнікамі іх з'яўляюцца вучні і настаўнікі гэтых жа школ. Так што я — можна сказаць — зросся з абодвума ліцэямі і магу пра іх многа расказаць. І параўнаць, якімі яны спачатку былі, і якімі цяпер з'яўляюцца, а таксама, якімі мы, тутэйшыя беларусы, раней былі, і якія адбыліся ў нас змены. Бо гэтыя ліцэі — проста дарожная карта нашага тутэйшага бытавання.

Пры такой нагодзе варта, думаю, яшчэ раз прыпомніць, што здабыванне ведаў, навукі майму пакаленню, пераважна выхадцам з нашых вёсак, давалася ой як нялёгка. Пачынаў я навуку ў пачатковай школе ў Пасынках, бо ў нашых Піліпках школы тады не было. Цяпер ужо і пасынскай школы няма. Вучыліся тады ў гэтай школе дзеці і моладзь аж з васьмі акалічных вёсак. І было яшчэ на нашых вёсках моладзі многа. Многія нашы вучні былі моцна перарослыя. Школы і класы былі перапоўненыя, моладзь задзірыстая. Часта ўзнікалі розныя канфлікты між намі.

Закончыўшы ў 1952 годзе пачатковую школу і здаўшы ўступны экзамен, я стаў вучнем Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. А ўжо тады паступіць у агульнаадукацыйны ліцэй ці вышэйшую навучальную ўстанову было не так ужо і лёгка. Сярэдніх агульнаадукацыйных школ і вузаў было яшчэ мала, а ахвотных вучыцца ў іх было многа. Наша моладзь як толькі пачула, што на іх пакаленне выпала шчасце жыць ужо ў калгасных вёсках, раптоўна і масава кінулася ўцякаць ад гэтага шчасця, што аж пыл за імі курэў. Пёр з імі і я. Пёр, пёр — і ў 1956 годзе закончыў ліцэй...

Што я магу сказаць пра тагачасны Бельскі беларускі ліцэй, тагачасны стан і кандыцыю нашага тутэйшага беларускага насельніцтва?

Бельскі беларускі ліцэй, пад кіраўніцтвам Яраслава Васільевіча Кастыцэвіча, быў своеасаблівай школай, са своеасаблівай свойскай атмасферай у ёй. У сценах яе свабодна і раўнапраўна гучала як польская мова, так і ўсе нашы мясцовыя беларускія гаворкі. Але ў ліцэі пазнавалі мы і беларускую літаратурную мову, беларускую гісторыю, заблытаную, але цікавую і багатую мінуўшчыну нашай Малой айчыны. Яраслаў Кастыцэвіч быў выдатным чалавекам, беларусам і педагогам. Намагаўся, каб кожны ліцэіст атрымаў добрыя веды і выхаванне, адным словам, атрымаў надзейную пуцёўку ў жыццё. Той час быў моцна атэістычным часам, а Яраслаў Васільевіч ужо пабываў у кіпцюрах энкавэдыстаў і толькі цудам удалося яму вырвацца з іх. Ад яго проста адміністрацыйна вымагалася выхоўваць маладое пакаленне ў атэістычным духу. І ўсё ж такі Кастыцэвіч і ў гэтым сэнсе не асарамаціўся ніколі. Адкрыта хадзіў у царкву. Мы ніколі не чулі ад яго антырэлігійных выказванняў, і ні перад кім не скрываў ён таго, што з'яўляецца моцна веруючым і праваслаўным...

А вось школьная база тадышняга школьніцтва была зусім убогенькая, прымітыўная. Перашкаджалі таксама ў навуцы вялікія матэрыльныя нястачы дзяржавы і людзей. Школьныя і інстытуцкія будынкі былі слабенькія і запушчаныя, класы, аўдыторыі і інтэрнаты моцна перапоўненыя і халодныя. Не хапала падручнікаў, кніг і дапаможнікаў. Не хапала або і не было за што купіць адпаведнага адзення, абутку і ежы. Але і такіх убогіх класаў, школ і інстытутаў было моцна замала і далёка не ўсіх дастойных і ахвотных маглі яны прыняць да сябе на навуку. А колькі ж добрых, сумленных, працавітых і здольных дзяўчат і хлопцаў з нашых вёсак не магло дастацца ў адпаведныя сярэднія і вышэйшыя школы толькі таму, што іх бацькі не то што былі замажнейшыя, але мелі няшчасце мець крыху больш гектараў ад бядняцкай нормы. Або былі менш хітрыя і не ўмелі скрыць гэтага. І гэта было, бадай, найкрыўднейшым...

Трэба тут адкрыта сказаць, што наша мясцовасць, у асноўным нашы пасляваенныя вёскі, былі беднымі, адсталымі, занядбанымі, запушчанымі. На адсталасць салідна папрацавалі бежанства, санацыйная Польшча, кароткае тут савецкае панаванне і нямецкая акупацыя.

Народная ўлада была, канешне, свядомай адсталасці нашых вёсак і абяцала, відаць, і хацела перабудаваць нашу адсталую сельскую гаспадарку і вёску на перадавую. Зрабіць, аднак, гэта хацела бягом і часта не зусім у згодзе з законамі эканамічнага развіцця. Да таго ж сялянства абложана было непасільнымі падаткамі і абавязковымі пастаўкамі, якія проста руйнавалі гаспадаркі. Выхады былі два — як найдалей уцякаць ад сельскай гаспадаркі або ісці з ёю ў нелюбімы калгас, які ў нас афіцыйна называлі **spółdzielnią produkcyjną**. Але і там раскошы не было...

Усё гэта адбівалася на псіхіцы нашага народа. І нашае, маладое тады, пакаленне адчувала таксама сваю прыніжанасць, непаўнацэннасць, нейкую трывогу. І часта, ужо ў сярэдніх гарадскіх школах, не маглі зжыцца з гэтым і пакідалі школы. А ў Бельскім беларускім ліцэі адчувалася адразу, што мы ў сябе дома і сярод сваіх...

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**




## http://filmfest.by/be/

Іншым разам бывае даволі цікава паглядзець непрацяглае па часе кіно. Гэты асобны напрамак у кінематографе дазваляе таленавітаму рэжысёру цягам пары дзесяткаў хвілін сканцэнтраваць увагу гледача на тым, што ў паўсядзённым жыцці звычайна застаецца па-за вачыма. І застаецца толькі здзіўляцца, як увогуле магчыма за такі непрацяглы час так трапна выказаць сваю думку, раскрыць усю праблематыку ўзнятага пытання.

У Беларусі ўжо трэці год запар праходзіць фестываль кароткаметражных фільмаў „Cinema Perpetuum Mobile" — некамерцыйны, незалежны праект, які трымаецца на імкненнях і рэсурсах арганізатараў. Уласна арганізатары — маладыя людзі з Мінска, улюбёныя ў кіно, якія хочуць распаўсюдзіць гэтую любоў на як мага большае кола людзей. Каб дасягнуць гэтай мэты, яны стварылі сайт фестывалю ў інтэрнэце, які месціцца па адрасе http://filmfest.by/be/.

Даны сайт выглядае даволі проста, што адразу выдае аматарскі падыход арганізатараў да сваёй справы. Гэта, дарэчы, і падкупляе, бо паказвае, што нават наладжванне фестывалю гэта не справа рук нейкіх VIPаў, і да яго можна лёгка і проста далучыцца. А гэта ж вырашэнне адной з задач арганізатараў „Cinema Perpetuum Mobile". Прынамсі так распавядаў адзін з іх — Дзяніс Шэка, прэзентуючы фільмы фестывалю ў Магілёве ў сярэдзіне красавіка.

— Мы хочам паказаць наша кіно як мага большай колькасці людзей, і хочам прыцягнуць іх да арганізацыі, каб у людзей прачыналася актыўнасць, каб яны адчувалі, што гэта і іх фестываль таксама", — казаў ён. — „Cinema Perpetuum Mobile" — гэта прадстаўленне кароткаметражных стужак з розных краін свету, што мусіць спрыяць міжкультурнаму дыялогу.

У той жа час, як указваецца на галоўнай старонцы сайта, „гэта сацыяльны праект, які ствараецца людзьмі па прынцыпах самаарганізацыі, узаемадапамогі, адкрытасці, празрыстасці і дэцэнтралізацыі. Гэта значыць, што любы чалавек можа ўзяць удзел у агульнай справе па арганізацыі фестывалю і назіраць, як гэта робяць іншыя".

Для тых, хто хоча далучыцца да арганізацыі фестывалю, варта зазірнуць на старонку „Валантэрам", выйсце на якую месціцца ўверсе цэлага выяўлення. Праца валанцёраў будзе карысна пры падрыхтоўцы субцітраў (пераклад літаратурных тэкстаў з англійскай на рускую і беларускую мовы), арганізацыі месц прагляду і суправаджэнні гасцей фестывалю.

— Валантэрам абяцаем шмат цікавых сустрэч і размоў з кінаманамі на ўсю галаву, — кажуць уладальнікі сайта.

Пра тое, як фестываль адлюстроўваецца ў сродках масавай інфармацыі, можна даведацца, калі зазірнуць на старонку „Прэс-цэнтр". Таксама там змешчаны прэсрэлізы пра паказы фільмаў. Праўда, нягледзячы на тое, што сайт трохмоўны, на беларускай мове прэс-рэлізаў няма.

Паколькі фестываль з'яўляецца выключна грамадскай ініцыятывай, паўстае пытанне аб тым, якім чынам адбываецца адбор фільмаў на яго. На сайце аб гэтым падрабязна не распавядаецца. Па словах Дзяніса Шэкі, у адборы фільмаў на паказы ўдзельнічаюць гледачы на перадпраглядах, вызначаючы найбольш упадабаныя стужкі таемным галасаваннем, а затым журы аргкамітэта вызначае лепшыя, дастойныя дэманстрацыі карціны на фестывалі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

### Выспеў як беларус

# 125 гадоў з дня нараджэння Юрыя Сабалеўскага



Партрэт мастака Анатоля Крывенкі

Ёсць у нашай гісторыі асобы, дзейнасць якіх перакручваецца і фальшуецца дагэтуль афіцыёзнай антыбеларускай гістарыяграфіяй. У ліку такіх постацей і асоба палітычнага дзеяча Юрыя Сабалеўскага.

Нарадзіўся Юрый Сабалеўскі 24 красавіка 1889 г. у беларускім горадзе Стоўбцы ў сям'і дарожнага рабочага. Пасля сярэдняй школы потым у 1910 г. скончыў землеробчыя курсы ў Коўне, працаваў землямерам, пакуль у 1915 г. не быў пакліканы на службу ў расейскае войска. Пасля 1917 г. працаваў у земскіх установах заходніх паветаў Беларусі. У перыяд 1917-1919 гг. жыў у Менску і праўдападобна ў гэты час яшчэ не даспеў да беларускай свядомасці. Гэтыя гады біяграфіі Сабалеўскага маюць нямала загадак. Невыпадкова ў некаторых дакументах гэтага часу ён фігуруе пад дзіўным іменем „Грыгор". Да асяродка тагачасных беларускіх нацыянальных дзеячаў-незалежнікаў залічваць Сабалеўскага няма падстаў. Гэта ўскосна пацвярджаецца тым, што ў друкаваных успамінах нашага героя адсутнічаюць нейкія падрабязнасці як пра абвяшчэнне БНР, так і пра першыя месяцы яе развіцця. Сабалеўскі апынуўся пазней у ліку людзей, забраных бальшавікамі як закладнікі пры адступленні пад націскам польскіх войскаў летам 1919 г. з сабой у Смаленск.

У 1922 г. Сабалеўскі абраны паслом польскага сейма. Абраны туды быў не адразу. Пачаткова вылучаўся ад Навагрудскай выбарчай акругі, але з адмоўным вынікам. Менавіта ў гэты час Сабалеўскі далучыўся да беларускага руху, але яшчэ не меў даверу. Невыпадкова старшыня Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта Антон Луцкевіч палічыў патрэбным адразу ж пасля заканчэння выбараў 13 лістапада 1922 г. узяць ад Сабалеўскага пісьмовае абавязацельства, у якім той засведчыў, „што я поўнасцю згаджаюся з праграмай Беларускага Цэнтральнага Выбарнага Камітэта і біру на сябе абавязак у Соймавай працы падпарадкоўвацца ўсім вымаганьням Беларускага Соймавага Клюбу". Сабалеўскі папросту „выспяваў" як беларус. У 1924 г. ён увайшоў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, пасля яе разгрому (1927) нелегальна выехаў у Гданьск. Дакладна вядома, што двойчы — у 1928 і 1939 гг. — ён быў арыштаваны польскімі ўладамі. З прыходам у Заходнюю Беларусь войскаў Чырвонай Арміі працаваў на будоўлі. Арыштаваны органамі НКВД і зняволены ў турму ў Баранавічах. Уцёк з турмы ў час бамбардзіроўкі нямецкай авіяцыі ў чэрвені 1941 г. У перыяд фашыстоўскай акупацыі Беларусі займаў пасады бургамістра Стоўбцаў, Нясвіжа, Баранавіч. У гэты час стаў другім віцэ-прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў акруговы аддзел Беларускай народнай самапомачы ў Менску. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзенні II Усебеларускага кангрэса (1944, Менск), быў старшынёй мандатнай камісіі.

Летам 1944 г. выехаў у Германію. У 1948-1950 гг. — адзін з рэдактараў газеты «Беларускае слова». З 1950 г. — сябра Агульнага беларускага саюза вайскоўцаў. З вясны 1950 г. жыў у ЗША, з 1951 г. — член Украінскай нацыянальнай рады, з 1952 г. — Беларускага нацыянальнага фонду, з кастрычніка 1955 г. — Камітэта незалежнай Беларусі. У 1957 г. жыў у Германіі. Памёр 30 снежня 1957 г. у Мюнхене. Пакінуў пасля сябе мемуары.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўскі аповед (7)

Чаромхаўскія ЗКУшнікі абяспечваліся ў харчовыя прадукты ў Гмінным кааператыве (ГС) у Кляшчэлях — у мяса і мясныя вырабы на каўбасным заводзе, а ў хлебабулачныя вырабы — у пякарні. З загадчыкамі гэтых установ у афіцэраў былі панібрацкія адносіны. Паколькі ў мяне з Генадзіем Казарэзам наладзіліся сяброўскія адносіны, дык пры нагодзе паездкі па прадукты я падаўся з афіцэрамі ў Кляшчэлі. Там я пазнаёміўся з Уладкам і Вальдкам. Першы быў кіраўніком каўбаснай, другі — пякарні. Завязаўся і ў нас траісты саюз. Часта пасля работы сустракаўся я ў Кляшчэлях «на горцы» з калегамі пры бакале піва. Аднойчы Вальдэк кажа: «Мой сябрук, кіраўнік пякарні з Нарвы, запрашае на «пэмпковэ». Нарадзілася ў іх дачушка. Не маем чым туды дабрацца. Пагавары з Казарэзам наконт машыны».

Мне два разы не трэба было паўтараць. З камандзірам ЗКУшнікаў не было праблемы. Генадзій пацікавіўся адно дзе тая Нарва знаходзіцца, ды калі і а каторай гадзіне трэба было пад'ехаць. З Чаромхі адправіліся мы ўчатырох: Казарэз, старшы лейтэнант Коля Саратаў (загартаваны хахол), я і шафёр Валерка. Казарэз забраў з сабою дубальтоўку, паколькі быў ён членам чаромхаўскага паляўнічага кола. Пад каўбасны завод пад'ехалі мы ў пасляабедні час, калі работнікі пайшлі дамоў. Так рашылі Уладэк з Вальдкам — арганізатары «эскапады». Паездку яны хацелі захаваць у таямніцы перад начальствам ГСу. Уладэк прыхапіў пакет адборных вэнджаных грудзінак і каўбаскі, затым накіраваліся мы ў Нарву. У манапольцы ў Нарве купілі мы па чвэртцы спірту. Паколькі загадчык нарваўскай пякарні жыў у Анцутах, вёсцы мяжуючай з Нарвай, затым падаліся мы туды. Вальдэк паказваў Валерку дарогу ў Анцуты. За пяць-сем мінут заехалі мы на панадворак пад шыкарную мураванку. Прывітаў нас гаспадар з належнай пашанай. Кампанію яму састаўляў высокі прыстарэлы мужчына з прысівелымі валасамі. Наш гаспадар (імя нарваўскага калегі, на жаль, не запамяталася) адрэкамендаваў нас сваёму цесцю. Сядзіба, на якой мы спыніліся, знаходзілася на ўзвышаным берагу рэчкі. Уніз, сярод зелені траў і прыбярэжных кустоў, быццам уюн, круцілася-плыла Нарва. Наш калега-гаспадар, так буду яго называць, прапанаваў палавіць рыбу. Для гэтай мэты прынёс рыбацкую сетку — невад. Казарэз, узяўшы з машыны дубальтоўку, падаўся над рэчку. Уладэк з шафёрам Валеркам, распрануўшыся, апусціліся з сеткай у ваду. Паколькі гэта было пад восень, вада ў рэчцы была высокая ды халодная. Рыбалоўствам займаліся яны надоўга. Злавілі пышнага шчупака і некалькі меншых рыбак. Выйшаўшым на бераг хлопцам неадкладна падалі мы па чарцы спіртнога, бо тыя дрыжалі быццам у ліхаманцы. Вярнуўся Казарэз з прыстрэленай качкай. Здабычу гаспадар перадаў жонцы, а нас запрасіў на пачастунак.

У шыкарна абсталяваным пакоі чакаў багата застаўлены стол. Застолле пачалося пры змярканні і доўжылася больш за тры гадзіны. Калі ўсе былі нападпітку, неразважліва ўзнікла спрэчка паміж цесцем гаспадара і лейтэнантам Саратавым. Паспрачаліся за ксяндзоў (гаспадар з цесцем — католікі). Саратаў папракаў каталіцкіх святароў, што тыя непатрэбна ўмешваюцца ў палітыку і каламуцяць у мазгах людзям. Гаспадарова цесця гэта раз'юшыла. Збіралася на скандал. Казарэз паклікаў тады Саратава набок, і даў яму строгі «выгавар». Пасля атмасфера пры застоллі стала няёмкай. Казарэз загадаў вяртацца дамоў. Пры нагодзе падвезлі мы гаспадаровага цесця ў Іванкі-Рагазы, затым самі падаліся ў Гайнаўку. Усю дарогу ў машыне царыла цішыня. Уладэк з Вальдкам драмалі, афіцэры пэўна разважлялі над спрэчкай Саратава. У Гайнаўку пад'ехалі пасля дзесятай вечара. Калі апынуліся перад кватэрай Уладка, той запрасіў на «аглаблёвае». Мы з Саратавым засталіся ў машыне. Апошнія пайшлі на пачастунак. Праз паўгадзіны рушылі ў Чаромху. Дахаты падвезлі мяне пасля адзінаццатай вечара. Ранкам трэба было збірацца на работу...

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

## Нашы карэспандэнты

# Дзе і як прадаюць „Ніву”

У пачатку красавіка гэтага года пачалі прадаваць „Ніву” ў прыватных кіёсках на вакзале ПКС у Беластоку — у сярэдзіне пачакальні і ля прыстрэшка, пры якім затрымліваюцца аўтобусы гарадской камунікацыі. Пару гадоў нашага роднага часопіса ў іх не было. Дык вось у чацвер, 10 красавіка г.г. я купіў свежы пятнаццаты нумар „Нівы” ад 13 красавіка ў кіёску на аўтавакзальным прыпынку. У кіёску ў сярэдзіне пачакальні ПКС прапанавалі мне яшчэ і папярэдні нумар ад 6 красавіка г.г.

З Беластока а гадзіне 10.15 я паехаў па сваіх справах у Гайнаўку. Ішоў вуліцамі 3 Мая і Пілсудскага ды ў кіёсках „Руху” праз шыбы бачыў „Ніву”. Ляжала яна на прыкметным месцы (!). Я ўжо раней ведаў, пры якім акенцы яе кладуць. У Гайнаўцы „Нівай” № 15 зацікавіў я настаўнікаў-пенсіянераў, якія сабраліся — як і дагэтуль збіраюцца ў кожны чацвер — у Доме настаўніка. У гэтым нумары яны прачыталі пра сябе ў артыкуле „Актыўныя настаўнікі-пенсіянеры”. Я праінфармаваў, дзе ў Гайнаўцы яны могуць купіць беларускі тыднёвік.

Раніцай 11 красавіка г.г. я спецыяльна паехаў у Бельск-Падляшскі і там шукаў „Ніву” ў газетна-часопісных кіёсках, на пошце і ў крамах. У кіёску „Рух” насупраць будынка Павятовага староства і Гарадской управы былі тры экземпляры „Нівы” № 15 і адзін з іх я купіў. Тут наш родны часопіс знаходзіўся на самым сподзе пад іншымі газетамі. Другога кіёска з часопісамі я не знайшоў. Зараз няма кіёска ў бельскай вакзальнай пачакальні ПКС і ПКП (калісьці ён тут быў).

На галоўнай пошце пры вуліцы Міцкевіча ў продажы было сем экземпляраў „Нівы” і я адзін купіў для аднавяскоўца. На той жа вуліцы ёсць яшчэ другая пошта з нумарам 4. Спытаў я пра тыднёвік беларусаў у Польшчы і пачуў у адказ, што маюць некалькі экземпляраў.

Мне трэба было купіць пачак кавы і я зайшоў у вялікую краму „Левіятан” у цэнтры горада. І было мне прыемна, калі ўбачыў на відным месцы побач касы новую „Ніву” № 15 са здымкам знаёмага мне рэдактара Юркі Ляшчынскага (зараз праграмнага дырэктара Радыё Рацыя) на першай старонцы ды інтэрв'ю з ім.

Раніцай у суботу, 12 красавіка г.г. я патэлефанаваў у ГСаўскую краму ў Нараўцы і даведаўся, што ў продажы ёсць яшчэ тры экземпляры „Нівы” № 15. Тут яе ахвотна купляюць. Пасля поўдня купіў я адзін экземпляр настаўніцы Валянціне Самойлік з Плянты і два экземпляры новаляўкоўцам, між іншым, Міхалу і Ніне Целушэцкім. У Новым Ляўкове і ў суседніх вёсках усе жыхары ведаюць, што солтыс заўсёды мае „Ніву”.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | 11 | | 12 | 13 | 14 |
| | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. злая чараўніца = 19 _ 20 _ 21 _ 22 _ 23 _ 9 _ 8 _;
2. дрэва сямейства вязавых = 7 _ 3 _ 4 _;
3. лячэбная працэдура з прымяненнем штучнай ныркі = 17 _ 13 _ 16 _ 5 _ 6 _ 18 _;
4. акцёр, які іграе без слоў = 15 _ 11 _ 12_;
5. зімовае адзенне з футра = 14 _ 10 _ 1 _ 2 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Акіра, джут, рэмень, сена.

Рашэнне: **Ад жару і камень трэсне**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 27.04 — 03.05

**(22.03. — 20.04.)** У тваім жыцці пачынаецца ўздым. Чакаюцца новыя знаёмствы, у тым ліку і рамантычныя. Падыходны час для падарожжа. У панядзелак трэба будзе вырашыць пару канфліктаў. Не вядзі сур'ёзных размоў у апошнія дні красавіка.

**(21.04. — 21.05.)** Нягледзячы на багацце ідэй і праектаў, не пасвячай нікога ў свае планы. Адкладзі прыняцце сур'ёзных рашэнняў да будучага тыдня. У панядзелак верагодныя канфлікты з блізкімі людзьмі, хутчэй за ўсё са старэйшымі сваякамі. Можа паявіцца сур'ёзная прапанова новай працы.

**(22.05. — 22.06.)** 27-30.04. спрыяльныя сітуацыі, у якіх зрэалізуеш нават найбольш смелыя планы. 27 і 28.04. не ангажуйся ў прыватныя справы людзей на рабоце. У панядзелак пазбягай вялікага фізічнага напружання. Аўторак — дзень кантрастаў. Серада — псіхалагічна нестабільны дзень. Паспрабуй не зрывацца на блізкіх, не дапускай разрастання сварак і канфліктаў, будзь больш памяркоўным. У чацвер табе не варта глядзець на падаючыя з неба зоркі, каб не прыцягнуць хваробу або хуткую старасць.

**(23.06. — 23.07.)** 29.04. можаш заініцыяваць мерапрыемствы, якія будуць мець агромнае значэнне для тваёй будучыні. Хаця будзеш стомлены ў канцы красавіка. Звярніся да экспертаў і атрымай ад іх дзелавую або персанальную параду. Калі ў гэтыя дні знойдзеш ракавінку ўдалечыні ад мора і ракі, гэтая прыкмета абазначае ўдалы шлюб і шчаслівае сямейнае жыццё.

**(24.07. — 23.08.)** Знакаміты час на працу, пачынанне новых праектаў, стаўлянне першых крокаў. А калі прыкладзешся, вынікі будуць ашаламляльныя. Не рабі паспешлівых пакупак. Падзеі, якія адбываюцца з табою, паддай грунтоўнаму аналізу. Не дазваляй пачуццям мяшаць у тваёй прафесійнай дзейнасці. Увесь тыдзень рызыка, звязаная з агнём і электрычнасцю.

**(24.08. — 23.09.)** Жыццярадаснасць і энергія, спрыт, размоўнасць, знакамітыя задумы. Развяжаш складаныя справы дзякуючы сваім умеласцям і працы. Але добра плануй выдаткі. 27-28.04. лепш не выбірайся ў падарожжа. Будзь асцярожны і не прымай ніякіх падарункаў ад знаёмых і незнаёмых, якія могуць круціць.

**(24.09. — 23.10.)** Шалі, якія шукаюць працу за мяжой, могуць атрымаць добрую прапанову. Калі ў панядзелак давядзецца табе па неабходнасці завязаць больш двух вузлоў (выключаючы тыя выпадкі, калі завязванне вузлоў з'яўляецца тваім паўсядзённым абавязкам), гэта абяцае табе тры гады няўдач і бясплённых дзеянняў. Каб разбурыць заклён гэтай прыкметы, трэба завязаць яшчэ адзін вузел на чорнай нітцы або вяроўцы і спаліць гэты вузел у полымі чырвонай свечкі.

**(24.10. — 22.11.)** 27-30.04. пераканаеш да сябе амаль кожнага, здабудзеш інфармацыі важныя для цябе. Не паддавайся гвалтоўным эмоцыям, каб пасля не шкадаваць. Магчымыя сумесныя праекты з былымі ворагамі і канкурэнтамі. Інвестыцыі, уласнасць, нерухомасць, страхаванне і падаткавыя льготы цяпер павінны прынесці табе фінансавы прыбытак.

**(23.11. — 22.12.)** У красавіку схадзі да доктара, парабі абследаванні. Мноства задум, спрыт, актыўнасць. Знойдзеш выхад з кожнай сітуацыі. 30.04. будзеш для партнёра як мёд на рану. Усе справы ў канчатковым выніку пойдуць табе на карысць. Праўда, вы не зможаце зараз зрабіць усяго самі: вам трэба будзе прыняць дапамогу збоку. Грамадскія кантакты будуць каштоўнымі для будучых дзелавых аперацый. Але калі натрэш мазоль разношаным абуткам, гэта прадвесціць табе цяжкі шлях да поспеху.

**(23.12. — 20.01.)** 30.04. наведай кірмаш з натуральнай ежай. 30.04. будзе крыху замяшання на працы, але ўсё вернецца да нормы; калі ты на працы навічок, знойдуцца для цябе добрыя апекуны і кіраўнікі. Добры час для атрымання новых ведаў і набыцця новага вопыту. У гэтыя дні зможаш закласці добрую аснову для будучых фінансавых поспехаў. Тыдзень вельмі ўдалы для шукаючых новай працы.

**(21.01. — 19.02.)** Мноства гасцей. Шукай кампрамісу. Не здзейсні ўчынкаў, якіх потым будзеш шкадаваць. Твае сакрэты могуць быць раскрыты. Старайся кантраляваць свае паводзіны, не давай лішку свабоды сваім эмоцыям і пачуццям. Адкрыюцца перад табою новыя магчымасці, але азірайся назад.

**(20.02. — 21.03.)** 27-29.04. творчы, паспяховы настрой. Добрыя лады са сваякамі, раднёй, дзецьмі. Тыдзень поўны прыгод. Атрымаеш адказ на важнае пытанне. Твой рознабаковы розум і здаровы сэнс дазволяць табе знайсці правільныя рашэнні ва ўсіх сітуацыях і справіцца з многімі праблемамі. Пазітыўнае стаўленне пераможа нават хваробу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Анатацыя дакументальнага фільма „Сейбіт”



Герой фільма — жыхар раёна Студзіводы ў Бельску-Падляшскім, **Дарафей Фіёнік**. Беларус, грамадзянін Польшчы (як і ягоныя продкі), выпускнік праваслаўнай духоўнай семінарыі, кіруе царкоўным хорам. Заснавальнік Музея малой айчыны ў Студзіводах (матэрыяльная база складаецца з традыцыйнага падляшскага двара, які раней быў уласнасцю ягоных дзядоў, адрэстаўраванага героем, і мяшчанскага дома, уратаванага ад разбурэння), рэдактар этнаграфічнага часопіса „Бельскі гостінэць”, аўтар кніжак пра гісторыю рэгіёна.

Ён заснаваў калектыў „Жэмэрва”, які выконвае аўтэнтычны падляшскі фальклор і якім кіруе ягоная сястра Анна Фіёнік. Дарафей рэгулярна ладзіць этнаграфічна-фальклорныя імпрэзы ў Падляшскім ваяводстве з удзелам фальклорных калектываў з Падляшша і беларускага Палесся. Падчас этнаграфічных экспедыцый у гэтым абшары запісвае аўтэнтычны фальклор, выдае дыскі з забытымі песнямі.

Таксама ён займаецца фермерствам і з дапамогай сям'і традыцыйным спосабам вядзе гаспадарку на плошчы некалькіх гектараў. Малоціць збожжа цэпам, косіць сярпом і касою. Сее ўласнымі рукамі. Аднак найважнейшым сваім абавязкам лічыць прапаганду духоўнай і матэрыяльнай культуры падляшскіх беларусаў, каб, на ўзор біблейнага сейбіта, тое зерне „ўпала на добрую зямлю і дало плод: адно ў сто крат, другое ў шэсцьдзесят, а іншае ў трыццаць” (Мф. 13:8).

„Сейбіт”, дакументальны фільм, рэж. Юры Каліна, працягласць 52 хв., „Белсат”, 2014.

Тэлепрэм'ера адбылася: 19.04.2014 г., на тэлеканале „Белсат”

## ПАКАЗЫ:

4.05.2014 г.,
Бельск-Падляшскі, Бельскі дом культуры, гадз. 17[00]

5.05.2014 г.,
Беласток, Кінатэатр „Форум”, гадз. 18[00]

**Абодва паказы з удзелам герояў, пастаноўшчыкаў і беларускіх народных калектываў з Беларусі „Хосціслаўне” і „Вясковая табала” і з Польшчы „Жэмэрва” з Бельска-Падляшскага.**







Рэжысёр Юры Каліна і герой фільма Дарафей Фіёнік


ISSN 0546-1960